У кнігу ўвайшлі гістарычныя аповесці і апавяданні, дзеянне якіх разгортваецца ў розныя эпохі — ад часоў Вялікага Княства Літоўскага да канца XIX стагоддзя. Сярод герояў — філосаф-вальнадумец Казімір Лышчынскі, паўстанцы 1863 года, забойца цара Аляксандра II беларускі шляхціч Ігнат Грынявіцкі. Побач з гістарычнымі асобамі і тыя, чые імёны не трапілі ў энцыклапедыі — напрыклад, гетэра Дамініка, з якой чытач сустрэнецца ў гады Інфлянцкай вайны.

ISBN 978-609-8213-09-6

Прыкладна раз на год,
звычайна перад Калядамі
паводле грыгарыянскага календара,
мне сніцца полацкі архіварыус
манах-базылянін Аўгусцін Война,
які не першы год
судзіцца з езуітамі,
складаючы каліграфічным почыркам
дваццаць сёмую скаргу
каралеўскім камісарам.
Война лічыць шарлатанствам
механічную галаву з калегіума,
якая гаворыць на ўсіх вядомых мовах.
Война замінае спаць гадзіннік
на касцёле святога Стэфана.
Война здымае з паліцы
маю кнігу з аўтографам,
спярэшчаную іранічнымі маргіналіямі.
Война набірае апоўначы мой нумар,
знойдзены ў даўніх паперах
полацкага ваяводы…

# Тры мужы спадарыні Дамінікі

Мінулае начы ў табары зноў бачылі Белагаловую. Яна прыходзіла ўжо трэці раз і забрала трэцяе жыццё. Пярэпалах сярод нямецкіх наймітаў, прысланых маркграфам магдэбургскім, узняўся раніцою, калі недалічыліся рыцара Зігфрыда фон Бока. Ягоны намёт стаіць побач з абозам караля і вялікага князя, значыцца, Белагаловая прайшла зусім побач.

Першым і другім яе абраннікамі былі вугорцы. Тыя браты-блізняты, што не пахавалі Белагаловую разам з астатнімі, а павезлі яе ў лес.

У маім намёце напалена, але з-пад драўлянага насцілу падлогі цягне холадам і нязводнай вільгаццю. Калі прылегчы на край ложка і накінуць зверху ўлюбёную посцілку з павамі, робіцца прытульней.

Я апускаю павекі і вяртаюся ў той адвячорак, калі да Полацка нам заставаліся два дзённыя пераходы. Наперадзе, пракладаючы шлях у прыбярэжным зарасніку, ішла вугорская пяхота, але першымі ўбачылі плыты з людзьмі дазорцы полацкага кашталяна Юрыя Зяновіча. Нашы жаўнеры кінуліся ў ваду, не сыходзячы з коней, і хутка павыцягвалі малыя, на чатыры бервяны, плыты на бераг.

На плытах прыплылі два дзясяткі мерцвякоў. Яны ляжалі на беразе, зусім голыя або трохі прыкрытыя мокрымі лахманамі, з аднолькавымі смяротнымі ранамі злева, дзе сэрца. Гэта былі мужчыны — сівабародыя і бязвусыя, мажныя і сухарлявыя, цёмнавалосыя і русявыя. Кожны быў намёртва прыпяты да бёрнаў вяроўкаю з конскага воласу, нібыта яшчэ мог пасля

ўдару ў сэрца ўваскрэснуць і ўратавацца. А можа, іх спачатку прывязвалі, а потым ужо разлучалі з жыццём?

Я паволі ехала ўсцяж вусцішнага тагасветнага шыхта, і мой малады буланчык палахліва раздзьмуваў ноздры, усхрапваў і адварочваў галаву. На тварах і ў ашклелых вачах нябожчыкаў мой позірк не сустракаў ні страху, ні болю, ні благання пра літасць. Яны глядзелі на жывых спакойна і без ніякае зайздрасці — пэўна, па дарозе паспелі прывыкнуць да свету мёртвых.

За гэтыя гады я звыкла да жахаў вайны. Я бачыла целы без скуры, бо немцы часта здзіралі з забітых чалавечы тлушч, маючы яго за найлепшы сродак гаіць раны. Я бачыла закатаваных маскавітамі немцаў: звязаўшы палонніку рукі, стральцы ранілі яму жывот і ўсё цела так, што ўтвараўся суцэльны панцыр з ранаў. Мне даводзілася бачыць касцякі палонных, якіх маскоўскія ваяводы загадалі зварыць жыўцом у вялізных саганах. Пад Дзісною пан Каспар Бекеш паказаў мне жудлівую грону павешаных на запаведным дубе маладзіц, на якіх царскія татары практыкаваліся страляць з арбалетаў, цаляючы ў грудзі і ў пупок.

Чалавек да ўсяго прывыкае, але ў тую хвіліну, каля плытоў на дзвінскім беразе, нечая невідочная рука так перацяла мне горла, што я не адразу здолела выдыхнуць. Ад краю, поруч з маладзёнам, якога перад смерцю катавалі, бо ён не меў левага вуха, а правая яго рука выдавала на крывавую аладку, поруч з гэтым маладзёнам, на вуснах якога застыгла ўсмешка нянавісці, ляжала прывязаная да таго самага плыта маладая жанчына.

Мусіць, то вялікі грэх, але я падумала, што яна, гэтая жанчына ці мо дзяўчына, бо шлюбнага пярсцёнка на руцэ ў яе не было, прыгажэйшая за мяне. На яе зусім жывым твары яшчэ не пагас румянак. Саскочыўшы

з каня, я нахілілася і, намагаючыся не глядзець на маленькую ранку пад левай грудкай, зазірнула ў яе зялёныя расплюшчаныя вочы. Яны дзівілі глыбінёю і глядзелі ў неба ўважліва і спакойна.

У надзвычай светлых, быццам прыпудраных мукою, валасах, густых і даўгіх, падобных гэтым да падводнае травы, якую ў нас называюць русалчынымі косамі, заблыталася серабрыстая рыбка. Рыбка была жывая, і мне заманулася вызваліць яе і выпусціць у ваду, аднак мая рука спынілася. Здалося, што гэта не проста рыбка, што ў серабрыстай бліскаўцы тояцца апошнія кроплі дзяўчынінага жыцця.

На Белагаловай, як і на іншых, не было адзення, і я падумала, што ў нас з ёю падобныя постаці, адно яна трошкі вузейшая ў клубах. І зноў мяне ўтнула адчуванне грахоўнасці параўнання. Я зняла сваю адамашкавую накідку; яе хапіла, каб прыкрыць Белагаловую ад налітых высокіх грудзей да костачак.

Якраз тады і пад’ехаў кароль з почтам. Віленскі ваявода Мікалай Радзівіл запытаўся, ці не мелі нябожчыкі выпадкам пры сабе якіх-небудзь пісаных іхнімі забойцамі граматаў, а тады распарадзіўся пахаваць усіх, паклікаўшы ксяндза, бацюшку і кальвінскага святара, бо ў адных прыплылых былі на шыі крыжыкі праваслаўныя, у другіх — рымскія, а трэція, як Белагаловая, не мелі ніякіх. Ніхто не сумняваўся, што плыты — з Полацка, а пусцілі іх насустрач нашаму войску царскія ваяводы.

Нехта з жаўнераў-палачан пазнаў сярод забітых суседа, а нехта — роднага брата. У закатаванага брата былі адсечаныя на руках усе пальцы, і жывы брат прысягнуў на крыжы, што за кожны палец маскавіты заплацяць галавой.

Але найстрашнейшая навіна прыйшла ў мой намёт назаўтра. Юста, якая прыслугоўвае мне ад пачатку

паходу, расказала, што на берагавой строме пахавалі не ўсіх людзей з плытоў. Пакуль чакалі святароў, двое вугорцаў-блізнятаў забралі Белагаловую і выправіліся ў лес. Увечары яны хваліліся, што нацешыліся лепей, чым з жывою, і пакінулі яе на начлег, прывязаўшы ад звяроў на бярэзіне, каб уранні наведацца туды зноў. Толькі раніцой аднаму з іх ужо нічога не жадалася, бо яго знайшлі каля вогнішча цэлага-цалюткага, без драпінкі, але нежывога. Не зважаючы на гэта, ягоны брат-блізнюк усё адно вырушыў з сябрукамі ў лес, ды Белагаловай на дрэве яны не знайшлі. Затое сустрэлі на сцежцы сляды босых ног.

Другога вугорца Белагаловая забрала ўжо тут, у нашым вайсковым табары пад Полацкам. Трэцім стаўся немец фон Бок. За што гэткі лёс напаткаў нямецкага рыцара? Юста кажа, што ў Дзісне ён хацеў узяць на гвалт жонку майстра-залатара. Той стаў на парозе са зброяю і склаў галаву пад двухручным рыцарскім мячом, але памёр з гонарам, абараніўшы сваю жанчыну ад знявагі.

Мой гаспадар, мой трэці нявенчаны муж, кароль і вялікі князь Стэфан, не верыць у Белагаловую, але ж хіба не сам апавядаў пра ўваскрэслых наўцоў, якіх у яго на радзіме, у Сяміграддзі, гэтак шмат, што, бывае, у самога трансільванскага князя збіраецца на балю поўны чортаў тузін. Нездарма ж яго мосць паўсюль возіць з сабою вялікі вянок з часныку, што надзейней за любую малітву дапамагае ад пярэваратняў і вампіраў-крывасмокаў. Гэткі сама, толькі меншы вянок вісіць і над маім ложкам.

Не, я не баюся Белагаловай, але гэтымі днямі яна ўсё часцей завалодвае маімі думкамі.

Калі паміж маім і яе векам і ёсць розніца, дык усяго нейкі год ці два. Значыцца, малыя — каб ейныя бацькі таксама жылі ў Запалоцці — мы маглі разам гушкац-

ца з заміраннем душы на той вярбіне, што каля бацькавага млына вымыкала над хуткай Палатой доўгую спружыністую галіну, або — сорам успомніць — маглі, прысеўшы на стромкім беразе, мерацца з хлопчыкамі, хто далей сікне ў рачную плынь.

Калі сталася вядома, што маскоўскі цар ідзе з незлічонай ардою на Полацк, я мела шэсць гадоў. Пасля Калядаў тата запрог коніка ў лёгкія сані, і прыцемкам гнеды ўжо хрумстаў авёс у татавага брата Ціхаміра. Дзядзька Ціхамір таксама трымаў млын, а жыў пры маёнтку пана Корсака за сорак вёрстаў ад Полацка, як ехаць старым Вітаўтавым шляхам на Вільню.

Дзядзька намаўляў тату, каб забіраў маю маму, Агату і сам атайбоўваўся, пакуль мінецца ваеннае ліхалецце, у пана Корсака. Маўляў, як возьме маскоўскі цар Іван места Полацкае, літасці нікому чакаць не выпадае. Гэты цар і сваіх людзей без віны і суду карае, нават найзнатнейшых баяраў кліча халопамі і проста ў застоліцы сваімі ж рукамі, бывала, рэзаў да смерці.

Але тата не паслухаўся. Сказаў на братавы ўгаворы, што млын яго абароніць, бо мука трэба ўсім — і сваім, і чужаніцам. Ускудлаціў мне валасы, паабяцаў прыехаць на Вялікдзень і два разы з саней азірнуўся. Болей я ні таты, ні мамы не бачыла і, відаць, спаткаюся з імі ўжо ў чыстцы ці на небе. Калі не засталіся яны ў сумётах на тых зімовых дарогах, якімі гналі полацкі палон у Масковію, то ўсё роўна наўрад вернуцца. Нешта не чуваць, каб хтосьці з нашых адтуль вяртаўся. Адзін полацкі ваявода Станіслаў Давойна праз чатыры астрожныя гады выкупіўся за дзесяць тысяч чырвонцаў, жонка ж ягоная, Пятронія з Радзівілаў, так і загавела душой на маскоўскіх харчах у няволі.

Праз месяц, як тата пакінуў мяне, людзі з маёнтка пана Корсака ўбачылі аднойчы ўначы на небе ў тым баку, дзе Полацк, крывавую паланіцу. Толькі на трэ-

цюю ноч неба пагасла, а раніцой змораны конь прывёз па Вітаўтавым шляху ўчарнелага з твару чалавека, што, ссунуўшыся з сядла, адразу заснуў на руках у слугаў. Спаў цэлы дзень і цэлую ноч, а прачнуўшыся, папрасіў есці і, выпіўшы мёду-трайняку, нарэшце загаварыў.

Цар Іван здабыў Полацк пасля двух тыдняў аблогі і, парушыўшы абяцанне, палоннымі абвясціў не адных вайсковых, а ўсіх палачанаў. Месцічаў рымскае веры стральцы пасеклі, юдэяў патапілі пад лёдам у Дзвіне іВаловай азярыне, а праваслаўных узяліся выводзіць у няволю.

У той дзень цётка Арына карміла мяне салодкімі налісьнікамі і называла дачушкай, а я злавалася і казала, што няпраўда: маці маю завуць Агатаю, а бацьку — Цыпрыянам.

Мінуўся Вялікдзень, на Сёмуху патрусілі ў хаце падлогу пахкім аерам, а бацька па мяне ўсё не ехаў. Перад яблычным Спасам дзядзька Ціхамір сеў на свайго дэраша і вырушыў у той бок, адкуль узыходзіла сонца.

Не знайшоў ён у Полацку ні нашага млына, ні маіх бацькоў і сказаў, што буду я цяпер за дачку ім з цёткай Арынаю, якім сваіх дзяцей Бог не даў.

Адтуль сплыло шаснаццаць гадоў, а я дагэтуль памятаю смак сваіх слёз і печаных яблыкаў, якія тады ела. Плакала, але ела, бо надта ж любіла такія яблыкі, асабліва калі цётка Арына палівала іх ліповым мёдам.

Дождж цурболіць за скураю намёта, не даючы сабе ні хвіліны спачыну.

За ўсе дні аблогі сонца так і не выбліснула. Лужыны стаяць нават у сенатарскіх намётах. Яго мосць кароль і вялікі князь кажа, што дождж трапляе жаўнерам у кроў і робіць яе радзейшаю.

Па табары паўзуць чуткі, быццам залевы насылаюць нанятыя царом маскоўскія чараўнікі. Пяцё-

ра з іх ужо разлучыліся з жыццём. А можа, гэта былі гэткія самыя чараўнікі, як той, якога ўчора злавілі каля свайго абоза палякі? Юста чула, як ён бажыўся, нібыта ніякі не царскі вядзьмак, а тутэйшы чалавек. І сапраўды, гаварыў чыста па-наску і да апошняй сваёй хвіліны чытаў пацеры. Яго мосць Мікалай Дарагастайскі, едучы паўз абоз, спрабаваў заступіцца за нешчасліўца, ды палякі не паслухаліся полацкага ваяводы-кальвіна*. Праўда, пастанавілі абысціся без катаванняў — сцягнулі адным вузлом рукі з нагамі і ўкінулі ў Палату, каб сам Пан Езус разабраўся, дзе гэтай душы месца: у пекле ці ў раі…

А на двары тым часам лінула як з цэбра, быццам сапраўды цвердзь нябесная раскалолася.

Зноў будуць захрасаць у глыбачэзнай гразі вазы з харчам і гінуць у балотах абозныя коні. Ніхто не памятае такіх коштаў на правіянт і фураж. Асьміну аўса прадаюць за дзесяць талераў, і хутка будуць купляць яго толькі каралеўскім каням. Вільня не можа прысылаць правіянту, бо замак Суша на Віленскім шляху яшчэ трымаюць маскоўцы. У руках у царскіх людзей застаецца і замак Сокал, адкуль вораг робіць вылазы на Дзісенскую дарогу. Сам кароль, апрача таго, што ядуць простыя жаўнеры, дазваляе сабе адно пару яек.

У табары пахне голадам. Кажуць, палякі паціху пачынаюць есці конскую падлу. Немцы-найміты, што звыклі ваяваць на ўрадлівых землях сярод багатых гарадоў, пакутуюць найболей і спрэс хварэюць на крываўку. Нашы, ліцвіны, трымаюцца стойка, але вытрываласцю пераўзыходзяць усіх вугорцы пана Каспара Бекеша. Ён днюе і начуе каля сваіх гарматаў, там есць, спіць і заўсёды ў такой небяспецы, што няраз бываў абпырсканы крывёю тых, хто гінуў побач.

---

* Кальвініста.

Днямі ён прыязджаў да караля і прывёз мне барылку чырвонага вугорскага віна, якое добра піць у такое надвор’е гарачым, зварыўшы з цукрам, гваздзікай ды лаўровым лістам і абавязкова дадаўшы шчопаць цынамону. Твар у пана Каспара зжаўцеў, як стары пергамен. На пытанне караля пра здароўе сказаў, што ніколі не пачуваўся лепей і што ягоная пяхота рвецца на прыступ. Але маю душу сціснулі кіпці благога прадчування — не так праз пергаменавыя лоб і шчокі, як праз некалі бяздонныя вочы пана Каспара, дзе я раптам убачыла зусім блізкае дно, гэткае ж, як некалі ў маладога пана Багуслава, майго першага нявенчанага мужа.

Юстына, Юста, клічу я і загадваю пахолцы згатаваць гарачага віна, каб выпіць за супакой душы майго Богуся, а таксама за душы цёткі Арыны і дзядзькі Ціхаміра, што пакінулі гэты свет яшчэ раней. Неба забрала іх, калі ў Полацкім ваяводстве лютавала занесеная маскоўцамі чума, што выкошвала цэлыя вёскі, і не хапала святароў, каб адпяваць нябожчыкаў.

Стары пан Літавор Корсак загадаў пасля дзядзькавай смерці забраць мяне ў маёнтак. Ім з пані Мальгрэтаю было сумна ў гасподзе без дзяцей. Адзіны сын вучыўся ў Італіі і вярнуцца абяцаў толькі праз два гады.

Вайна тымі часамі прыгасла. Маскавіты сядзелі ў Полацку ды па сваіх замках. Найбліжэйшы ад нас замак, Тураўля, стаяў за трыццаць вёрстаў, а гэтак далёка ў бок Вільні царскія ваяводы хадзіць пасля сечы на рацэ Вуле не наважваліся. Тады, праз год пасля страты Полацка, найвышэйшы гетман літоўскі Мікалай Радзівіл ушчэнт разбіў войска ваяводы Пятра Шуйскага. Дзесяць тысяч маскоўцаў палегла на берагах Вулы ад ліцвінскіх куляў і шабляў, ды не меней, казаў пан Літавор, патанула.

Жыццё ў маёнтку плыло спакойна, як вада ў Дзвіне. Я дапамагала пані Мальгрэце гаспадарыць. Увечары стары пан Корсак зазвычай ладзіўся пры каміне і прасіў пачытаць яму, каб уначы сснілася што цікавае. Я чытала «Баву-каралевіча», «Трышчана», а найчасцей — «Александрыю», кнігу пра македонскага цара, якому праглася зваяваць увесь свет.

Асабліва любіў пан Корсак слухаць аб прыгодах цара Аляксандра ў Індыі. Тая далёкая Індыя чамусьці ўяўлялася яму надта падобнай да Італіі. Відаць, пану Корсаку, які ніколі не ездзіў далей Вільні, прыемна было думаць, што сыну могуць выпасці гэткія ж дзівосныя авантуры, як і старажытнаму цару.

Чытаць і пісаць я навучылася яшчэ ў дзядзькавым доме, адтуль прынесла з сабой і кнігу, што дала мне першую навуку. Кніга называлася «Юдзіф» і пачыналася са страшнай рыцыны*, якой я, малая, доўга баялася. На рыцыне ўдавіца Юдзіф у адной руцэ трымала меч, а ў другой — адцятую галаву акрутнага вавілонскага намесніка Алаферна. Там была таксама пахолка, трохі падобная да маёй Юсты, што падстаўляла пад вусцішную галаву мех. Разоў колькі той малюнак мне сніўся, палохаючы яшчэ болей. У сне рыцына ажывала: Юдзіф з пахолкаю выходзілі з яе, не раўнуючы як з карэты, а вусатая галава забітага вавілонца шалёна круціла налітымі крывёю вачыма і брыдка лаялася памаскоўску.

Пэўна, дзядзькава кніга каштавала немалых грошай, бо пан Літавор забраў яе ў свой паляўнічы пакой, дзе на сценах былі паразвешаныя ласіныя ды турыныя рогі, а ў дубовай шафцы леваруч дзвярэй заўсёды стаяў поўны штораніцы і пусты надвечар штоф з вішнёўкаю.

---

* Гравюры.

Неяк стары Корсак, вярнуўшыся з Вільні, прывёз вучонага габрэя Гіршу, чалавека з сівымі пейсамі і маладымі вачыма. Гірша ўзяўся навучаць мяне нямецкай мове і лаціне. На той час мяне перахрысцілі ўжо ў рымскую веру, і з Домны я ператварылася ў Дамініку. Гірша і пачаў свае ўрокі лаціны з таго, што патлумачыў маё імя: Дамініка — значыць нядзеля. Пан Багуслаў пазней і зваць мяне так будзе — спадарыня Нядзелька.

Мне споўнілася чатырнаццаць гадоў, і мае дабрадзеі Корсакі вырабілі паперы, што прымаюць мяне ў сям'ю на правах дачкі. Пані Мальгрэта пачала клапаціцца пра мае ўборы і сказала, што зробіць з мяне сапраўдную шляхцянку, якую не сорам будзе паказаць самому каралю і вялікаму князю Жыгімонту Аўгусту.

Юста нясе кубак гарачага духмянага віна. Налі сабе, Юста! Выпі за свайго Рыгора, што служыць у ваяводы Дарагастайскага.

У нашых гаворках Юста, трымаючыся старога ліцвінскага звычаю, аніколі не называе нарачонага на імя. Калі мужчына на вайне, лепей пакінуць ягонае імя адно ў думках, бо іначай ваяр пачуе яго ў небяспечную хвілю, азірнецца, забыўшыся на асцярогу, і спаткаецца са смерцю.

Ну, Юста, каб куля мінала і шабля не брала!

Віно грэе і трошкі кружыць галаў. Калі адкінуцца на падушкі і прымружыць вочы, зусім лёгка вярнуцца ў той дзень, як мы з панам Багуславам спаткаліся каля Вітаўтавых талерак. Так зваўся валун паблізу маёнтка. Там, на беразе возера, калісьці спыняўся палуднаваць гаспадар Вітаўт Кейстутавіч з войскам. Стуль нібыта і засталіся ў камені глыбокія ямкі-талеркі.

Я любіла гуляць пры Вітаўтавых талерках — і малая, і калі падрасла. Там хараша было плесці вянкі

з красак, або ўяўляць высокага дужага князя Вітаўта ў рыцарскім панцыры, або проста, схаваўшыся ад усяго свету, мроіць пра нешта такое, чаму ў чалавечай мове яшчэ няма наймення. Цёплыя дажджы напаўнялі каменныя талеркі вадой, і туды можна было пускаць апалонікаў і плямістых жабак. Або можна было проста глядзецца, як у люстэрка, хоць у тую пару такога люстэрка мне ўжо не хапала.

За вясну і лета я дзівосна перамянілася. Грудкі нібы прачнуліся: выраслі, яблычна акругліліся і, як у Юдзіфі з маёй кніжкі, прасіліся са шнуроўкі на волю. Клубам было цесна ў старых сукенках і андараках. Мая скура зрабілася ядвабнаю, а постаць як быццам да краёў налілася сокам.

Уранні і ўвечары я зачынялася ў спачывальні на зашчапку і з усцешлівым недаверам разглядвала сваё новае цела ў срэбным люстэрку. Я любіла лашчыць яго рукамі, асцярожліва дакранаючыся да смочак і да пупка, у якім затаілася радзімка. Аднойчы рука слізганула ніжэй, туды, дзе пасля зімы з'явіўся густы светлы пушок, і яшчэ ніжэй, дзе было горача і вільготна і дзе звіло гняздо салодкае чаканне.

Молячыся перад тым, як легчы ў ложак, я прасіла ў Дзевы Марыі спакойных і чыстых сноў, але і сны да мяне прыходзілі новыя, і ад іх я пачасту прачыналася сярод ночы і ўжо не магла заснуць, пакуль пальцы самі сабой не апыналіся ў трапяткім міжножжы…

Такою я была ў тое лета, калі адышоў у лепшы свет пан Літавор Корсак і з Італіі вярнуўся малады пан Багуслаў.

Тады таксама канчаўся жнівень, але цёплы, з зарніцамі і зарападамі. У той дзень недзе ў пушчы за далёкім азёрным берагам спела, грукочучы невідочнымі жорнамі, навальніца. Яе начная папярэдніца да краёў наліла Вітаўтавы талеркі, і я раз-

пораз пырскала з іх сабе ў твар, каб змыць хваляванне, што не пакідала мяне ад самае раніцы.

Калі я адыходзіла з дому, пан Багуслаў, скрыжаваўшы, паводле завядзёнкі, рукі на грудзях, глядзеў мне ўслед з адчыненага вакна. Ягоны позірк не адпускаў і цягнуўся па-над утравелаю сцежкай, нібы нітка з клубка ў маім кошыку.

Я ведала, што па гэтай невідочнай нітцы ён пойдзе шукаць мяне і неадменна знойдзе.

Прыхінуўшыся да нагрэтага сонцам валуна, я, здаецца, на хвіліну задрамала, а калі прахапілася, ён ужо стаяў насупроць у высокай траве сярод рамонкаў. Ён вельмі нагадваў князя Вітаўта з маіх мрояў, толькі замiж рыцарскага панцыра на ім была белая, як лебядзінае пяро ў яго на стале, расшпіленая на грудзях кашуля і нетутэйшыя шчыгульныя нагавіцы з зялёнага фаляндышу. Каб не разарвацца, маё сэрца падзялілася на безліч маленькіх сэрцаў, якія калаціліся ў розных кутках мае істоты, што была перапоўненая і сілаю, і знямогай.

Пан Багуслаў апусціўся побач на траву, узяў мяне за руку і сказаў заплюшчыць вочы. Далей усё адбывалася так, быццам перад маім высокім люстэркам, толькі мяне распраналі і лашчылі ўжо не мае, а мужчынскія рукі. Яны аднекуль ведалі, што смочкам даспадобы, калі іх трошачкі сціснуць. Яны хутка знайшлі схаваную ў пупку радзімку. Яны казыталі пушок унізе жывата і прабіраліся далей. А потым мяне пакінула разуменне таго, што адбываецца, бо цела трапіла ва ўладу ўжо не рук, а ягоных вуснаў, якія паўтаралі ўвесь шлях, пройдзены рукамі…

У той дзень я стала пану Багуславу нявенчанай жонкаю.

Дадому мы вярнуліся разам. Трапіўшы пад навальнічную залеву, прамоклі да апошняй ніткі, і гэта да-

памагло мне збольшага адолець сорам, хоць на вячэры я баялася сустрэцца вачыма і з панам Багуславам, і з пані Мальгрэтаю, якая, мне здавалася, усё чыста разумела, ды так яно, пэўна, і было.

Уначы навальніца вярнулася, і, калі першыя кроплі залапаталі па лісці старой яблыні-пепінкі пад маім акном, дзверы ў спачывальню адчыніліся. Пан Багуслаў прысеў на ложак, запытаўся, чаму я не зашчапіла дзверы, і ціха засмяяўся.

У далёкіх краях разам з сямю навукамі вольнымі ён спасцігаў і навуку любоўную. Ужо ў нашу першую ноч не розумам, але сваёй жаночай існасцю я зразумела, што такі мужчына — як дарагі падарунак Фартуны.

Пан Багуслаў расказваў мне пра італійскага мастака Рафаэля. Той кахаў жанчыну, якую ўсе звалі Фарнарына, што значыць булачніца, хоць яна мела і прыгожае сапраўднае імя — Маргарыта. Яна нарадзілася ў простай сям'і, аднак мастак, роўнага якому знайсці амаль немагчыма, маляваў з Фарнарыны мадоннаў. Калі яе не было побач, Рафаэль не мог закончыць ні карціны, ні фрэскі. Але Фарнарына не ведала, што такое стома ў любоўных уцехах, і слабы на здароўе мастак увачавідкі таяў і сканаў, не дажыўшы да сарака гадоў.

Маладому пану Корсаку такая смерць не пагражала. Я не Фарнарына, аднак я таксама любіла гэтую асалоду, у якой растаеш, быццам кінутая ў студню драбінка солі.

Яму падабаліся мае грудзі, і ён зваў іх то вінаграднымі гронкамі, то танкарунными козачкамі, то келіхамі з амброзіяй. Ён кожны раз доўга цалаваў іх — і проста так, і змазаўшы смочкі верасовым мёдам, якім аднаго разу напоўніў мне найпатаемнейшае месца, каб выпіць яго і давесці мяне да салодкага нябыту толькі вуснамі і языком.

Удзень ложам служыла нам трава каля азёрнай затокі са сціжмаю сініх, смарагдавых і бурштынавых стрыбавак. Неяк ён зрабіў з белых лілеяў каралі і надзеў мне на шыю. «Ты русалка, а русалак трэба любіць вось так». Сказаў і, ласкава павярнуўшы да сябе спінаю, рассунуў мне крумянкі. Я думала, ён памыляецца, а ён хацеў менавіта гэтага…

А ноч зноў зводзіла нашы целы і душы — то ў маёй спачывальні, то ў ягонай, дзе драўляныя львы трымалі ў лапах старое люстра з вясёлкавымі разводамі. Пан Багуслаў падводзіў мяне да львоў і запальваў кандэлябру. «Ва ўсёй Італіі не знойдзеш карціны прыгажэйшай…»

Там, перад люстрам, ён зазвычай і пачынаў любіць мяне. Гэта было дзівосна: бачыць яго маладую постаць і набрынялую жаданнем плоць, назіраць і адчуваць, як ён уваходзіць у мяне, бачыць на сваіх клубах або на грудзях ягоныя прыгожыя ўмелыя рукі… Ён любіў, калі я цалавала яго мужчынскае месца і высмоктвала з яго белую кроў, якую ён называў эліксірам маладосці.

Часам ён палохаў мяне, кажучы, што там, у глыбіні люстраў, нараджаюцца прывіды…

Ён клікаў мяне то Нядзелькаю, то Домначкай, як мама ў дзяцінстве. Як і той італійскі мастак са сваёй каханкаю, ён не любіў разлучацца са мною.

Упершыню ён узяў мяне з сабою ў Вільню на рыцарскія баі. Тады ў нашу ліцвінскую сталіцу з’ехаліся рыцары з дзесяці краінаў. Пан Багуслаў перамог паляка і немца, аднак не адолеў француза, што выбіў яго з сядла, моцна пагнуўшы прылбіцу. Праз гэта мой Богусь цэлы тыдзень хадзіў змрочны, як на памінках, і адпусціўся ўжо дома каля сваіх ільвоў. На паядынак выходзіў і сам вялікі князь і кароль Жыгімонт Аўгуст.

Але найцікавейшым і найвесялейшым стаўся жартоўны бой, дзе адразу з двума ліцвінамі білася

ў поўнай рыцарскай брані віленская дзеўка-выляжанка Зоська Доўгая.

Перад тым падарожжам мы заручыліся. Пані Мальгрэта пакрысе рыхтавалася да вяселля, але Богусь хацеў дачакацца канца вайны.

Дзесьці паблізу намёта ўсчынаецца вэрхал і разоў колькі спалохана бахае рушніца. Няўжо прыйшла госця з зялёнымі вачыма і маленькай ранкаю пад сэрцам? Каго і за якія грахі яна забярэ цяпер?

Не, трывога ў табары хутка ўтаймавалася, але ўсе мае думкі ўжо пра яе, Белагаловую.

Юста заснула на сваім куфры каля ўвахода, і я сама падліваю ў кубак віна. Я не страшуся Белагаловай, бо не чую за сабой аніякага граху перад ёю. Не можа ж яна пакараць за таго баярскага сына, ад якога смярдзела зялёным віном і псінаю і які пасля маёй пачосткі заснуў вечным сном.

Тады прыдаўся пярсцёнак, што пакінуў мне перад сконам мой першы нявенчаны муж, мой незабыўны Богусь.

Не трэба баяцца Белагаловай. Трэба маліцца, каб яна пакінула наш стан і пайшла ў Полацк. Каб помсцілася там. Каб знайшла забойцаў — сябе самой і таго бязвусага маладзёна са знявечанай рукою, з якім плыла па Дзвіне на адным плыце. Яны маглі кахаць адно аднаго, і той юнак мог дарыць Белагаловай такую ж асалоду, як мне мой Богусь. Мо яны былі разам і тады, калі на дзвінскім беразе ўжо чакалі плыты, а царскія стральцы гойсалі па полацкіх вуліцах, шукаючы ахвяраў.

Я пачуваюся вінаватаю перад Белагаловаю, бо ўсе гэтыя гады жыла на волі і пачала забываць Полацк і бацьку з маці, хоць аніколі не заснула, не памаліўшыся за іх. І горад, і твары бацькоў, і скляпенні святое Сафіі, куды мы хадзілі на Вялікдзень, паўстаюць уваччу ўжо

быццам праз слюдзяное вакенца або праз пералівістае мярэсціва, што некалі вісела ў скварныя дні над маім запаветным каменем каля возера.

Мне мроіцца, што Белагаловая пражыла ў захопленым горадзе частку жыцця, наканаванага мне, і наўзамен мяне спаткала там смерць. Цяпер замест яе засталася жыць я. Але і яна пакуль не пайшла з гэтага свету назусім. Яна недзе блізка, і я прашу яе ісці ў Полацк і дапамагаць нам за гарадскімі сценамі.

Пакарай ваяводаў, што пусцілі па Дзвіне страшныя плыты! Пакарай пастаўленага Масквой епіскапа Кіпрыяна, што загадаў паліць старыя полацкія кнігі і граматы, якія бераглі ў Сафійскім саборы з часоў ігуменні Еўфрасінні!

Ты чуеш мяне, Белагаловая? Цяпер тваё месца ў Полацку. Хадзем, я пакажу табе дарогу! Ужо развіднела, але ж табе не трэба чакаць цемры, каб схавацца ад варожых вачэй.

Вартавыя не заступаюць шляху, а жаўнеры, што даўно не бачылі жанчын, не распранаюць нас прагнымі позіркамі. Я дала Белагаловай сукенку з кармінавага люндушу, што пан Багуслаў падараваў мне ў Вільні, выйграўшы бой у нямецкага рыцара.

Я вяду яе ад Дзвіны да Валовае азярыны, праз нямецкі і прускі абозы. За азярынаю, дзе некалі, кажуць, стаялі паганскія бажніцы Перуна і Бабы Ягі, пачынаецца каралеўскі стан. Я паказваю Белагаловай, дзе жывём мы з Юстай, дзе намёт караля і вялікага князя Стэфана, вакол якога густа, у тры рады, пашыхталіся сенатарскія намёты.

Жаўнеры не адрываюцца ад клопатаў — хто гуляе ў косці, хто чысціць рушніцу або гострыць клінок, — і я разумею, што яны нас проста не бачаць, як не бачыць і надворны маршалак Радзівіл Сіротка, што кіруе ў паходзе каралеўскім дваром. Белагаловая зрабіла

невідочнай для чужых вачэй і мяне. А вось коні яе чарам непадуладныя, бо маршалкаў конь незадаволена пырхае.

Мы мінаем польскую конніцу і лёгка выходзім за звязаныя ланцугамі вазы, што ахоўваюць каралеўскі абоз. Далей стаяць ліцвіны яго мосці Мікалая Радзівіла. Наскую гаворку змяняе вугорская. Тут, насупроць Запалоцця, трымае аблогу Бекешава пяхота, і я паказваю Белагаловай гарматы, адкуль пан Каспар б'е па полацкіх сценах агнявымі кулямі.

Мне карціць пабачыць пана Каспара, ды замест яго насустрач ідзе вугорскі ваявода Мадазы з падкручанымі ўгору чорнымі да сінечы вусамі. Чалавек ён адукаваны: заўсёды загаворвае да мяне на лаціне і, згадваючы траянца Парыса, называе сармацкаю Аленаю. Цяпер жа і Мадазы праходзіць паўз нас, не звёўшы сваім адзіным вокам.

Мы ідзём па шматмоўным, шматаблічным табары, што сабраў і тых, хто прыйшоў вызваляць свой горад, і тых, каго вабіць толькі вайсковая здабыча, і я нарэшце выводжу Белагаловую да адзінага моста праз Палату, які не сарвала высокая ад дажджоў вада. Вунь там, воддаль, знаёмая да балючай стрэмкі ў сэрцы вярба, ды няма ні бацькавага млына, ні нашага дома, і я намагаюся не глядзець туды, у невараць.

Далей Белагаловая мусіць ісці адна. Я бяру яе за руку. Яе рука халодная, але жывая, яна сціскае маю і хутка саграваецца. Я хачу, каб Белагаловая штосьці сказала мне на адвітанне, хачу пачуць яе голас, бо яна пакуль не прамовіла ні слова.

Гэтаксама моўчкі яна ступае на хісткі мост. Вада паднялася вышэй насцілу, і Белагаловая прыўзнімае падол сукенкі.

Яна ўжо прайшла больш за палову моста, і тут я спахопліваюся, што не ведаю яе імя. «Як цябе за-

вуць?» Вецер падхоплівае і даносіць мае словы да Белагаловай. Яна аглядаецца і ў нерашучасці спыняецца. «Не вяртайся! Ідзі!» Але Белагаловая паварочвае назад. Яна падыходзіць усё бліжэй, адпускае падол і працягвае да мяне рукі…

Я прахопліваюся ад уласнага крыку. Над ложкам — сонная зляканая Юста. Па намёце хвошча дождж. Мне холадна, і, угамаваўшы сэрца, я кажу Юсце нагрэць яшчэ віна і кінуць туды болей цынамону.

Аднавокі Мадазы тры дні таму быў забіты маскоўскімі кулямі, калі раіўся пры гарматах з польскімі ваяводамі. Тады сама кавалак дрэва з гарадской сцяны параніў у галаву маршалка Радзівіла, якога мы з Белагаловай сустрэлі на кані ў добрым здароўі. Выходзіць, я вяла яе да Палаты не сёння, а раней, і яна вярнулася, каб забраць рыцара фон Бока…

Гэта сон, ды пан Богусь вучыў мяне, што сон — працяг жыцця, а жыццё — працяг сну і не заўсёды чалавеку дазволена ведаць, дзе сон пачынаецца і дзе канчаецца, сніцца ўсё гэта яму ці ён сам разам са сваім жыццём сніцца камусьці іншаму, пакуль той не прачнецца.

Пан Богусь умеў добра тлумачыць сны. За колькі месяцаў наперад ён ужо ведаў пра смерць вялікага князя і караля Жыгімонта Аўгуста.

Гаспадар Жыгімонт памёр праз год па вяртанні Богуся з Італіі.

Стары пан Корсак апавядаў, што адразу пасля Люблінскага сойма, калі Вялікае Княства Літоўскае злучылася з Польскай Каронаю, яго каралеўская мосць выправіў з палаца жонку Кацярыну і папрасіў у папы рымскага разводу. Адны казалі, нібыта прычынаю было тое, што каралева не нарадзіла спадкаемца. Другія лічылі, быццам гаспадар напісаў у Рым, каб вальней амурыцца з тою, якую тады кахаў, бо яго

мосць заўсёды шанаваў жаночыя павабу і ласку. Аднак калі атрымаў вестку пра жончыну смерць і клопат пра развод вырашыўся сам сабою, кароль заліўся слязьмі і хутка апынуўся ў кіпцюрах у хваробы, якая ўжо не адпусціла.

Хто асуджаў нашага гаспадара за амурныя справы, хто згадваў нешчаслівыя жаніцтвы яго мосці і найперш ягоную незабыўную Барбару, праз чыю смерць кароль, каб вярнуць каханую Басю хоць на дзень, быццам бы зблытаўся з самім д'яблам. Але і зычліўцы і зласліўцы сыходзіліся ў тым, што, займаючы велікакняскі пасад сорак гадоў, гаспадар Жыгімонт прынёс краіне дабра непараўнана болей, чымся шкоды. Ды найперш усіх займала, хто станецца пераемнікам яго мосці.

Загаварылі, што вялікім князем і каралём будзе малады ваявода Генрык Валезы, родны брат французскага караля Карла IX. Дзеля гэтага, праўда, Генрык мусіў пабрацца шлюбам з падстаркаватай Жыгімонтавай сястрою Ганнай Ягелонкай. А потым усё ледзьве не пайшло тунна, бо перад днём святога Барталамея каталікі выразалі ў Парыжы начной парою болей за тры тысячы гугенотаў.

У нашай дзяржаве ўсхадзіўся тады вялікі неспакой — не таму, што баяліся сваіх закалотаў і разні паміж каталікамі ды кальвінамі, а таму, што з Францыі даляцелі чуткі, быццам у тую вялікую кроў быў утручаны і сам Генрык. Па ўсёй Рэчы Паспалітай супроць яго падняліся шляхта і магнаты, якія адышлі да кальвінскае веры.

Але хітрамудры французскі пасланец біскуп дэ Манлюк, якога пасля перахрысцілі ў Манюку, пераканаў сенатараў і шляхту, што на Генрыку ніякай крыві няма і што ён ажэніцца з Ганнаю, як толькі прыедзе ў дзяржаву. Апрача таго, француза змусілі падпісаць арты-

кулы, што будзе берагчы ў краіне мір паміж рознымі верамі, а кіраваць стане пад апекаю шаснаццаці сенатараў. Чаго не дакляруе прагны да трона!

Усё гэта ў мяне ў памяці, бо мы з панам Багуславам былі ў Варшаве падчас элекцыйнага сойма, дзе гнезненскі арцыбіскуп абвясціў Генрыка вялікім князем літоўскім і каралём польскім з умоваю, што, калі новы гаспадар забудзе пра свой подпіс пад артыкуламі, усе жыхары Рэчы Паспалітай зробяцца ад вернасці яму вольнымі.

Мой Богусь вяртаўся з Варшавы не ў гуморы. Не знайшлі, казаў, гаспадара сярод сваіх, не будзе краіне выгоды і ад француза. Так яно і сталася. Жаніцца з Ягелонкаю Валезы занатурыўся, бо ніколі і не збіраўся, прагнучы за любы кошт пабрацца з іншаю паняй, якую завуць уладаю. Яе адну і любіў, а дзяржава наша была яму як заезны дом падарожнаму. Калі ў Францыі сканаў ягоны брат-кароль — відаць, не дараваў яму Госпад рэкаў крыві, пралітай у Барталамееўскую ноч, — Генрык не захацеў затрымацца ў дзяржаве нават на дзень.

Сенат выдаў пастанову, што дазвол на ад’езд можа даць каралю адно вальны сойм. Валезы з пастановы пасмяяўся і ўначы падмазаў пяты. Шляхта наладзіла пагоню, падкаморы каронны Ян Тэнчынскі здагнаў уцекача, ды не дамогся нічога, апроч слова вярнуцца ў Рэч Паспалітую, як уладкуе свае французскія клопаты. Абяцанкі-цацанкі! У Парыжы Валезага абралі каралём, і наша краіна яго ўжо не абыходзіла. Так на ўцеху ворагам Княства і Кароны пачалося другое бескаралеўе.

Віленскі сойм пастанавіў абраць гаспадаром Эрнэста Габсбурга, ды тое засталося на паперы. Тады сенат абвясціў каралём і вялікім князем яшчэ аднаго немца, імператара Максіміліяна, але шляхта не пагадзілася і аддала галасы трансільванскаму князю Стэфану Ба-

торыю, ці, як у нас яго завуць, Сцяпану Батуру. Дзеля трона мусіў ён воленс-ноленс пабрацца з той самай Ганнай Ягелонкаю, якой ішоў пяцьдзясят пяты год і якая была старэйшая за свайго нарачонага на цэлыя дванаццаць гадоў.

Тры гады таму Батура каранаваўся ў Кракаве, але наша шляхта прызнала яго вялікім князем толькі пасля таго, як выдаў грамату, што Карона і Княства — дзяржавы ва ўсім роўныя, што палякаў ваяводамі ў Княства прызначаць не будзе, а соймы будуць збірацца па чарзе то ў Польшчы, то ў нас, у Літве.

Як бы радаваўся пан Богусь, каб пачуў, што кароль Стэфан пацвердзіў Княству ўсе дзяржаўныя правы! Але яго, майго першага нявенчанага мужа і заступніка, ужо не было на свеце.

Падлі віна, Юста!

Трэцяе лета сыходзіць, як прывезлі пана Богуся зраненага і такога знябытага, што заносілі ў дом на руках. На Віленскім шляху ён запыніўся са сваімі людзьмі ў аўстэрыі і трапіў у маскоўскую засаду. Стральцоў з Тураўлянскага замка — спапялі яго сваім гневам, Госпадзе! — прыпадала на кожнага нашага па трое. Добра хоць, што здолелі адарвацца ад пагоні.

За колькі тыдняў мы са старой пані Корсакавай ды зялейніцай Грыпінкаю, што гатавала ўзвары і прымочкі, раны нашаму маладому гаспадару загаілі, але сіла да яго не вярталася. Грыпінка вызначыла, што стралецкае зялеза пераняла пану Багуславу жыццёвую жылу.

Збіўшыся з ліку дзён, я сядзела пры маім Богусю, то чытаючы яму, то вартуючы ягоны цяжкі сон і прыслухоўваючыся да слабога дыхання. Ён заставаўся ў ясным розуме і, калі пачуваўся трошкі мацней, браў мяне за руку і апавядаў пра Італію ды іншыя краі. Я чула розныя дзівосы: пра горы са снегавымі шапкамі,

што не растаюць і ў самае спякотнае лета, пра горад, дзе заміж вуліцаў — рэкі і людзі ездзяць адзін да аднаго на лодках, а дамы вырастаюць проста з вады. Ён казаў пра звера малпу, што падобны да чалавека, але мае хвост і начуе на дрэвах, прывязаўшыся гэтым хвастом, як вяроўчынай, да галінаў. Побач з малпамі, далёка за морам, жывуць людзі з чорнай, як сажа, скураю. Ён расказваў і пра само мора, што мяняе колер, падымаецца і апускаецца, спакойна спіць і раз'ятрана разбівае караблі.

Мора здавалася мне найвялікшым дзівам, і пан Богусь абяцаў, што неадменна пакажа мне яго, але я ўжо не давала веры, што ён некалі ўстане. Дзень пры дні яго рука ставала ўсё слабейшаю, нібы жыццё выцякала з яе невідочным тонкім струмком.

Аднойчы ўвечары ён папрасіў мяне распрануцца і легчы з ім. Мне раптам здалося, што здолею абудзіць яго плоць і вярнуць майго Богуся да жыцця. Я лашчыла яго, як толькі ўмела: цалавала, пакусвала, як яму заўсёды падабалася, смочкі, прынікала вуснамі да таго, што калісьці гэтак хутка вырастала і запаўняла, здавалася, усю мяне…

Але яго плоць маўчала.

Некалі мае грудзі імгненна запальвалі яго, нават выснажанага шматдзённымі ловамі. Гэтым разам Богусева рука таксама, нібы ўзгадаўшы тыя дні, пацягнулася да грудзей, аднак яе дотык быў бязважкі — як быццам сеў, склаўшы на момант крыльцы, матылёк.

Мяне пацяла горкае веданне, што ён ужо ніколі не падвядзе мяне да люстра і не запаліць свечнік, не абдыме, не зможа кахацца… Я зразумела, што ў яго ў вачах блішчэлі не водбліскі жадання, а слёзы.

Я не заплакала — абняла яго сама і чытала пацеры, пакуль не праваліліся ў сон, а калі прачнулася, мой Богусь ужо схаладнеў.

Ён адышоў, не даведаўшыся, што ў мяне пад сэрцам варушыцца дзіця. Часам мне нясцерпна — так, што мусіла сціскаць вусны — хацелася сказаць пра гэта. Я думала, нашае пакуль не народжанае малое ўтрымае Богуся на свеце, ды знахарка Грыпінка ўгаворвала мяне маўчаць, каб — наадварот — душа майго мужа не паклікала следам душу дзіцяці.

Можа, дарма паслухалася Грыпінкі, хоць пан Богусь напраўду забраў з сабою яшчэ адну душу. Пасля хаўтураў пані Корсакава пачала таяць, як свечка, і сарака дзён па сыне ўжо не прычакала. Нейкая сіла не дазволіла мне адкрыцца і пані Мальгрэце, якая сышла ў магілу, не ўведаўшы, што будзе мець унука ці ўнучку.

Яна пакінула мне маёнтак, а пан Багуслаў — чатырыста чырвоных злотых ды ліст да віленскага шляхціча Якуба Неміровіча, з якім вучыўся разам у Італіі і якога прасіў узяць мяне ў сваю апеку. Апрача таго, у спадчыну ад Богуся застаўся вось гэты, ён у мяне і зараз на безыменным пальцы, пярсцёнак з тайніцай, што паспрыяў мне болей і за грошы, і за ліст, бо пан Якуб апекавацца мною мог адно з нябёсаў: недзе пад Глыбокім маскоўская куля ўжо заручыла яго з зямлёй.

Стральцы з Тураўлянскага замка наляцелі, як шулякі, назаўтра пасля пахавання пані Мальгрэты. Той жах трэба зачыніць у памяці ў самай далёкай спіжарні на цяжкі замок і выкінуць ключ у бяздоннае возера.

Баярскі сын, што прывёў стральцоў, болей выдаваў на чалавека, які моліцца не Хрысту, а Алаху.

Ліхадзеі шныпарылі па хлявах і свірнах, з конскім гігатаннем цягнулі ў адрыну маладую ахмістрыню Завею, ганяліся па двары за дзяўчатамі. Сам стралецкі верхавод, сакануўшы шабляю фурмана Шэмета, што заступаў яму дарогу, уварваўся да мяне ў спачывальню. Вузкія сонныя вочы загарэліся юрам, а рэдкая рудая барада паказала ў пажадлівай ухмылцы жоўтыя зубы.

Я жагналася і прасіла не чапаць мяне, кажучы, што толькі днямі пахавала мужа і ягоную маці, ды мае благанні толькі распалялі баярскага сына. Ён ашчаперыў мяне, памацаў грудзі і крумянкі і, зацмокаўшы языком, паабяцаў забраць з сабою ў замак, а пакуль загадаў чакаць яго з лазні.

За дзвярыма тырчаў гэтаксама падобны да нехрысця вартавы. Адчыніла вакно — пад ім уладкаваўся яшчэ адзін барадаты бамбіза. Заплачу золатам, сказала я, паказаўшы жменю дукатаў. Ён імгненна згадзіўся, высыпаў грошы ў гаманец, а калі я села на падваконне, каб саскочыць у сад, зарагатаў і прыставіў мне да грудзей вастрыё алебарды. Каля ног у нелюдзя стаяў збан з медавухай, і як толькі мае вочы змецілі гэта, я ўжо ведала, што рабіць.

Лазня не змыла са стралецкага верхавода ні зладзейскага поту, ні нейкага саладкавага паху, пра які ў мяне мільганулася думка, што, можа, так пахне кроў. Масковец быў ужо моцна захмялелы і, угледзеўшы на стале штоф з мёдам-трайняком і дзве налітыя шкляніцы, аж закалаціўся ад радасці. Я не ведала, як хутка забівае атрута з майго пярсцёнка, а таму схавала пад падушкаю Богусеў італійскі корд з гострым, бы змяіны язык, джалам.

Усё ледзь не пайшло прахам. Заместа таго каб піць са шкляніцы, ён прысмактаўся да штофа, але, на шчасце, адляпіўшыся ад рыльца, перакуліў у рот і шкляніцу.

Баярскі сын паспеў зачыніць дзверы на засаўку і ступіць да мяне два крокі. Я сціснула пад падушкаю тронак корда, але трэці крок стаўся для маскавіта апошнім.

Атрута з пярсцёнка забівала без пакутаў.

Я асцярожліва зірнула ў вакно. Вартавы прыткнуў алебарду да сцяны і, ашчаперыўшы парожні збан з-пад медавухі, хроп, быццам ерыхонская труба. Па-

куль апусцілася ноч, мне наканавана было пабачыць, як брыла, нібы непрытомная, з адрыны Завея і як на яблыні стральцы павесілі старога Гіршу. Выскачыўшы з вакна, я першы раз спынілася, каб звесці дых, толькі каля Вітаўтавых талерак.

Ты, Белагаловая, зрабіла б тады на маім месцы тое самае. Але ты не патрапіла ўратавацца…

Адкуль, з якога прытулку выходзіш ты ўначы? Каго пакінула на гэтым свеце? Ці даў табе Бог тваю крывінку, твой працяг?

Мой хлопчык, якога хацела назваць Багуславам, нарадзіўся ў Вільні нежывы. Лекар з Замкавай вуліцы, нечым падобны да кажана немец з сумнымі вачыма, сказаў, што — колькі б ні дзяліла я ложа з мужчынамі — болей дзяцей у мяне не будзе.

А дождж не сунімаецца, быццам няўцешна плача сама гэтая зямля. У намёце непрытульна, як у сутарэнні. Здаецца, сырым зрабілася ўжо і паветра, і сам час, у якім я чакаю яго мосць караля і вялікага князя. А можа, цябе, Белагаловая?..

Няўжо ты вярнулася з моста, каб забраць мяне за тое, што я забіла чалавека? Той жа баярскі сын быў ворагам. Мо гэта ягоныя людзі пазбавілі жыцця цябе і юнака з аднаго з табою плыта?

Якія яшчэ грахі ляжаць на маёй душы? Так, я нявенчаная жонка ўжо трэцяга мужчыны, але ці такая цяжкая гэта правіна, калі неба звяло мяне з самім каралём і не пакарала за два гады, пражытыя з панам Каспарам Бекешам, які ніколі не моліцца і не трымае посту, і, даруй, Госпадзе, кажа, што не Бог стварыў чалавека, а чалавек — Бога…

Ліст да пана Каспара даў мне стары Антон Немiровіч. Страціўшы сына, ён зрабіўся сівы як лунь і, заклаўшы сваю гасподу на Татарскай вуліцы, сам зазбіраўся на вайну, бо не хацеў ад жыцця ўжо нічога, апрача помсты.

Доўгія месяцы пасля нараджэння майго мёртвага хлопчыка я і сама чулася, як не дакапаная да вады студня, і калі ў Вільні, а потым у Горадні лавіла на сабе ўважлівыя мужчынскія позіркі, мая душа ўмомант ашчаціньвалася.

Тады я яшчэ болей прыахвоцілася чытаць. Пан Каспар меў добрую кніжніцу з лацінскімі і нямецкімі кнігамі. Сярод іх я знайшла выдрукаваную па-наску кнігу «Юдзіф» і сустрэлася з ёю, быццам са старой знаёмай.

Я перагортвала старонкі фаліянтаў пана Бекеша і ўчытвалася ў радкі, якія ён адкрэсліў для сябе зялёным атрамантам. Гэткім чынам я нібы зазірала свайму апекуну ў душу. Мне было цікава і трошкі ніякавата, быццам я займаюся нечым недазволеным.

У рымскага кесара Марка Аўрэлія пану Бекешу спадабалася думка, што ўсё ў жыцці мімалётнае: і той, хто памятае, і тое, аб чым памятаюць. У іншай кнізе — яе напісаў Эразм з Ратэрдама — пяро пана Каспара пазначыла словы: «Не плакаць, не смяяцца, але разумець».

Ён так і жыў, і не існавала, відаць, рэчы, якой бы мой апякун не разумеў ці не ведаў.

Напачатку пан Бекеш абыходзіўся са мною, як з дачкой, чаго і вымагалі ягоныя гады, бо яму пераваліла за пяцьдзясят пяць. Я чула да яго ўдзячнасць за такія стасункі. Мне было дастаткова маёй памяці пра Богуся.

Але аднойчы я змеціла, што пан Каспар глядзіць на мяне іншымі вачыма, і неспадзявана адказала на яго позірк. Мінуўся ўжо год, як адляцела душа пана Багуслава, і маё маладое цела прачыналася, як дрэва пасля зімы. Увечары, перад малітваю, я зноў, як некалі, падыходзіла да люстэрка і тады найбольш востра адчувала, як маім грудзям, маім клубам і ўлонню трэба мужчынская ласка, цеплыня і сіла.

Была велікодная вячэра. Нашы з панам Каспарам келіхі з мальвазіяй сустрэліся над сталом уадначас з нашымі вачыма, і я ўжо ведала, што сёння ўначы ён прыйдзе да мяне.

Ён увайшоў у спачывальню з запаленым кандэлябрам у адной руцэ і зялёнай пляшкаю мальвазіі ў другой. Ад яго пахла духмянамі і нечым няўлоўна мужчынскім. Пан Каспар прамовіў: «Solus cum sola, in loco remoto, non cogitabuntur orare Pater noster»*, і мяне апякло адначасна холадам і гарачынёю. Гэтыя словы я чула калісьці ад майго Богуся.

Я яшчэ не ўяўляла, якія вусцішныя рэчы пачую ад пана Каспара пазней, у тыя вечары і ночы, калі ён будзе расказваць пра сябе, не хаваючы самага пакрыёмага.

Пан Каспар не вызнаваў аніякае веры. Гэта не было таямніцаю, але зямляцтва і даўняе знаёмства з каралём і вялікім князем ахоўвала яго ад гневу чорных сутанаў. На мае словы, што мы з ім жывём у граху, а таму душы нашы пасля смерці асуджаныя на пакуты, мой другі нявенчаны муж нязменна адказваў сваёй блюзнерскай малітваю, якую я таксама насуперак волі ведаю на памяць: «Не веру ў Бога, не прагну неба, не баюся пекла, не турбуюся пра Божы суд, не трывожуся пра цела, а пагатоў пра душу, якая памрэ разам са мною». Гэтую бязбожную малітву ён хоча бачыць на сваім надмагіллі, пра што зрабіў адмысловы запіс у тастаманце. Не ведаю толькі, які святар пагодзіцца яго хаваць. Дай Божа таму тастаманту пыліцца доўгія гады, ды маё сэрца прадчувае благое. Можа, тады, у Свіры, калі яго каралеўская мосць рабіў агляд ліцвінскае конніцы і радзіўся з ваяводамі, куды рухаць войска найперш — на Пскоў ці Полацк, пан Каспар ужо прадчуваў хваробу і падвёў мяне да караля і вялікага князя наўмысна.

---

* Застаўшыся сам-насам, ён і яна не чытаюць «Ойча наш» (лац.).

У жылах у пана Каспара, гэтаксама як і ў яго каралеўскае мосці Стэфана Баторыя, бегла гарачая вугорская кроў. Некалі пан Каспар быў ягоным супернікам у змаганні за трансільванскае княжанне, а пазней стаўся сябрам і цяпер камандуе ў каралеўскім войску пяхотаю. Надзейнейшага супольніка наш гаспадар не меў ні ў аблозе Гданьска, ні тут, пад Полацкам.

Усплыло на памяць, як пан Каспар, вярнуўшыся з-пад Гданьска, да самае раніцы, пакуль пеўні не збіліся з ліку, кахаўся са мною, бы юнак, а калі на ложак лёг першы сонечны промень, раптам сказаў, што, калі забіваеш чалавека, кожны раз бывае па-іншаму, як кожны раз па-іншаму мужчына адчувае сябе з новай жанчынай. І, памаўчаўшы, дадаў: «І кожная жанчына, і кожны забіты назаўсёды застаюцца з табой».

Размовы з панам Каспарам штораз мяне палохалі. Я нібыта з галавою акуналася ў сцюдзёную цёмную ваду. Аднак — дзіўная рэч! — выходзіла з яе не са страхам, а з незразумелым спакоем, кшталту таго, што застаецца пасля споведзі. Хоць насамрэч спакой гэты пэўна ж быў зусім інакшы, бо пан Каспар не адпускаў мне грахоў, а адно павялічваў іхні цяжар.

Але ён заўсёды спакойна глядзеў, як я ўкленчваю перад абразамі, і ані не кпіў з маіх малітваў. Аднаго вечара, калі ягоны сябар і гэткі самы бязбожнік рыцар Феранц, які больш за жанчын любіў юнакоў, убачыўшы мяне на малітве, загагатаў, пан Каспар гэтак глянуў на яго з-пад калматых броваў, што той падавіўся смехам. Не, пан Бекеш не пераварочваў мяне ў бязбожніцтва, ды з кутка мае душы раз-пораз даносіўся голас, які нашэптваў тое, што боязна паўтараць і ў думках.

Няўжо душа напраўду проста развеецца, запаветрае, як дымок ад ачахлага вогнішча? Тады, калі чалавечым душам не наканавана вечнага жыцця, я хачу,

ласы, пэўна, былі ў ведзьмароў, што выклікалі, як яна чытала ў старых хроніках, бясконцыя дажджы, калі дзвесце гадоў таму Полацк трымаў у аблозе вялікі князь і кароль Стэфан Баторы...

У нейкі момант яе душа паўстала; ёй захацелася скінуць мярэжку чараў і ўзяць размову ў свае рукі, але...

Але ёй на памяць недарэмна прыйшлі ведзьмары: наступнае хвілі ягоныя вочы робяцца ўтрапёнымі і яна, не паспеўшы запярэчыць яму ні словам, ні рухам, апынаецца ў дужых руках, якія ашчадна, аднак з катэгарычнай уладнасцю пераносяць яе з алькова на неспадзявана мяккую шкуру, а яшчэ праз тры ўдары сэрца ён ужо авалодвае ёю цалкам, перакульвае ў вір жарсці, азарту і шаленства, якія, відаць, можна параўнаць адно з тымі, што кіпяць у мужчынскай душы на паляванні.

Шкура пахне зверам, аднекуль з зялёных нетраў даносяцца гукі ражкоў і сабачы брэх, дзікія лесавыя пахі зліваюцца з хмельнай водарнасцю ягонага поту... Яна заплюшчваецца, і ў якімсьці кутку яе розуму ўспыхвае вар’яцкая думка, што гэты ліцвін насамрэч здолеў ператварыць іх, сябе і яе, у мядзведзя і мядзведзіцу. Каб пазбыцца наслання, яна расплюшчвае вочы, бачыць у святле кандэлябра свае белыя рукі і хоча засмяяцца з недарэчных страхаў, ды смех захрасае ў горле абарваным птушыным клёкатам, бо яе, імператрыцу, даганяе і накрывае з галавою хваля, што цягне за сабой, прымушае вырывацца, крычаць і нарэшце — застагнаць у шчаслівай бездапаможнасці, захлынуцца радасцю. Не, не радасцю, а нязмерна складанейшым пачуццём, падобным да кароткатэрміновае смерці, да імклівай экспедыцыі ў нябыт.

Яна любіць вяртацца з такога падарожжа не адразу. Тая самая хваля, ужо спакойная і лагодная, павінна

прынесці яе назад і непрыкметна адступіць, знікнуць, як вымуштраваная пакаёўка, знайшоўшы яе раскунежанаму целу прытульнае месца на пустэльным беразе гукаў, адчуванняў і дотыкаў, з якіх народзіцца, набываючы плоць і кроў, ненадоўга пакінуты свет.

Тут, у старасвецкім драўляным палацыку над Дзвіной, дзе яна спынілася, адмовіўшыся ад вільготных пакояў дарабленага — гэта ў яе імперыі старая завядзёнка — у апошні дзень мураванага палаца на рынку, усё атрымалася іначай.

Ёй не ўдалося падпарадкаваць гэтага ведзьмара свайму рытму і змусіць яго перажыць зліццё з абсалютам уадначас з ёю. Полацкі паляўнічы не наталіўся, ім кіравала ранейшая неўтаймоўная жарсць, і ён не адпусціў яе ў жаданую ціхую гавань. Ён толькі напачатку дазволіў ёй, імператрыцы, аддацца той хвалі, а ў астатняе імгненне ўтрымаў і зрабіў сваёй пахолкаю, хутка вяртаючы жаданне ёй самой.

Гэты ліцвін прымусіў яе спярша легчы на стол, потым укленчыць на падлозе і зноў падняцца. Ягоныя рукі, вусны, язык упэўнена і бессаромна блукалі па ўсім яе целе; досыць было апусціць павекі, каб здалося, што яна маркітуецца з некалькімі мужчынамі адначасова. Ён абуджаў пакрыёмую, таемную прагу, што дрэмле ў сутарэннях свядомасці кожнае жанчыны і можа так ніколі і не вырвацца з вязніцы, — прагу цалкам, да апошняе часцінкі трапіць у абладу мужчынскае сілы, адчуць гвалт над сабою, ператварыцца ў адаліску, у рабыню.

Ён абыходзіўся з ёю ўсё больш бесцырымонна, але ад гэтага жаданне ставала адно вастрэйшым, завалодваючы ёю ад карэньчыкаў валасоў да пазногцяў. Ён рабіў ёй балюча, ды боль не выклікаў пратэсту, а ўпырскваў у вены новую порцыю таго хмелю, які яна ставіла непараўнальна вышэй за любы іншы напой.

Яна, імператрыца, паслухмяна і ўдзячна выконвала ўсе ягоныя прамоўленыя і непрамоўленыя загады. Мужчына загадваў, і яна цалавала цвёрдыя гаркавыя смочкі яго налітых жалезнай сілаю грудзей. Мужчына загадваў, і яна кусала і грызла іх, чуючы, як ён распальваецца яшчэ болей. Мужчына загадваў, і яна паварочвалася тварам да начной ракі і клала локці на падваконне…

Яна зноў і зноў стагнала ад асалоды, а потым… потым ён змусіў яе зрабіць тое, што ўжо шмат гадоў яна рабіла адно тады, калі хацела сама… Толькі тады яна, выснажаная, як загнаная аленіха, здолела вызваліцца і самнамбулічна дабрысці да ложка. Але ў ім, у полацкім паляўнічым, выкіпела не ўся жарсць, і ён здагнаў яе, імператрыцу, і яшчэ раз паслаў ёй хвалю, што аглушае і збівае з ног…

Нарэшце і ён выцягнуўся побач — як звер, што адарваўся ад пагоні і цяпер мае права перавесці дыханне і наталіць смагу з цёмнай лясной рачулкі.

Яны пілі бардоскае, якое ўвачавідкі вяртала сілы, і маўчалі…

Імператрыца адчыняе вакно і, упусціўшы ў пакой ручаіну вогкай ранішняй свежасці, глядзіць на раку. На тым баку ўжо вынырнулі з туману жоўтыя муры бернардзінскага кляштара. Вада ўзмацняе гукі, і зарэчных пеўняў чуваць так, быццам іхні хор уладкаваўся адразу за вартоўняй з гвардзейцамі.

Там, за Дзвіной, іншая дзяржава.

Дзяржава, якая належыць таму, хто калісьці ўмеў дарыць ёй амаль такія ж шалёныя, дзівосныя ночы. Таму, без каго яна — як і ён без яе — няздольная была вытрымаць да вечара. Таму, хто, не будучы мастаком, пакінуў нашчадкам яе найдасканалейшы партрэт. Ён увасобіў яе аблічча ў словах, і калі на гэтым свеце ёсць каханне, ягоным пяром кіравала менавіта яно.

Ужо колькі гадоў яна не разлучаецца з яго падарункам — мініяцюрнай, пераплеценай у зялёны кітайскі ядваб кніжкай-нататнікам. Каб уваскрасіць у памяці тыя натхнёныя радкі, ёй не трэба гартаць старонкі з залатым адлівам. Імператрыца ведае свой занатаваны былым каханкам партрэт як «Ойча наш». «Яна брунетка з неверагодна белаю скурай. Бровы ў яе чорныя і вельмі доўгія, нос грэцкі, рот як быццам кліча да пацалунка, рост можна назваць высокім, талія тонкая, лёгкая хада, мілагучны голас і вясёлы, як і характар, смех. Яна лёгка пераходзіць ад гарэзлівай гульні да сур'ёзнай табліцы лічбаў, якія яе зусім не палохаюць...»

Імператрыцы здаецца, што дзякуючы полацкаму ведзьмару сёння яна выглядае гэтаксама, як і ў дні, калі яе вобраз увекавечыў Станіслаў Аўгуст. Але яна гасіць імкненне падысці да люстра ў багатай асадзе, у якім магла б паўстаць на поўны рост, як на палотнах прыдворных жывапісцаў.

Там, на далёкім беразе прамінулых з таго часу дваццаці гадоў, яна была яшчэ вялікай князёўнаю, а ён — усяго толькі паслом Саксоніі і Рэчы Паспалітай, напачатку нават не паслом, а сакратарам пасольства.

Яго не было побач тады, у чэрвені 1762-га, калі яна наперадзе верных ёй палкоў ехала верхам у гвардзейскім мундзіры старога пятроўскага крою і ў капелюшы з зялёнай дубовай галінкаю ў Пецяргоф, куды ў той самы дзень мусіў прыехаць імператар, якому лёс адлічваў апошнія дні. Яго, Станіслава Аўгуста, не было з ёю ў яе зорны час, калі яна кіравалася насустрач фартуне, каб ужо заўтра ўрачыста ўступіць у Пецярбург. Побач былі княгіня Дашкава, граф Мікіта Панін, браты Рыгор і Аляксей Арловы, гэтыя куміры моладзі, непераўзыдзеныя майстры наладжваць на сталічных ускраінах кулачныя баі да смерці...

З тых, хто дзеля яе ўзыходжання на трон рызыкаваў кар'ерай і жыццём, яна не забыла нікога. Мікіта Панін атрымаў Калегію замежных спраў. Кацярыну Дашкаву яна паставіла на чале Акадэміі навук. Рыгор Арлоў ужо праз нейкі год стаў генерал-фельдцэхмейстарам...

Яна ўзнагародзіла кожнага, але найдаражэйшы падарунак быў прызначаны яму. Найвышэй узляцеў ён, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Праз два гады яна ўмяшалася ў змаганне Чартарыйскіх з Патоцкімі і зрабіла яго каралём і вялікім князем літоўскім, уладаром Рэчы Паспалітай.

Імператрыца адчувае на твары ўсмешку. Хтосьці з замежных зласліўцаў падлічыў, што яна заявілася ў Расею, маючы ўсяго тры сукенкі, паўтузіна кашуляў і столькі ж насовак. Ну, дапусцім, сукенак было ў яе гардэробе на пару болей, але сутнасці гэта не мяняе. Цяпер яна — гаспадыня найвялікшай у свеце дзяржавы, і яе імперыя няўхільна прырастае новымі і новымі землямі. Восем гадоў таму яна адрэзала сабе ад краіны былога каханка Інфлянты і абшар да Дзвіны, Друці і Дняпра.

Ён, Станіслаў Аўгуст, дастаткова разумны, каб усведамляць, што былое каханне — не аргумент у мастацтве палітыкі. Але дыпламаты паведамляюць, нібыта надзеі ў яго наіўным сэрцы не пагаслі, а толькі прыцярушаныя попелам...

Яна не можа стрымаць смеху. Кожнаму цвярозаму палітыку відавочна, што гэтая мяжа — часовая. Зусім хутка галасістыя зарэчныя пеўні будуць і на тым баку Дзвіны будзіць яе падданых.

Ніколі дагэтуль імперыя не была такой магутнаю, а яна, яе ўладарка, такой шанаванаю ў свеце. Ёй пісаў Вальтэр. З ёю лічыць за гонар ліставацца Дэні Дзідро. Праўда, яе славуты французскі карэспандэнт паўсюль бачыць дэспатызм і марыць пра канстытуцыю, а пад

старасць і наогул, кажуць, шыецца ў рэспубліканцы. Колькі гадоў назад, прыехаўшы ў Расею, ён угаворваў яе, імператрыцу, скасаваць прыгон. Ха-ха-ха…

Крыху пазабаўляўшыся ўспамінамі, яна пераходзіць да думак больш паважных.

Усё, што прапануюць такія разумнікі, — гэта лекі для Еўропы. А тут пачынаецца іншы кантынент, іншы свет. Петрарка ўжо складаў санеты, Батычэлі маляваў «Вясну», а тут па гарадах і вёсках скакалі, збіраючы даніну, ханскія баскакі.

Не, у Беларусі баскакаў не было, але тое ўжо не істотна, бо яна прырасціла гэтую зямлю да свайго кантынента.

Там, у Еўропе, яны з іхняй «Энцыклапедыяй» і рэспубліканскімі ідэямі, відаць, так ніколі і не здолеюць уцяміць, што яе падданым энцыклапедыі і канстытуцыі будуць непатрэбныя яшчэ не адно стагоддзе.

Нейкі прастадушны французік, хтосьці з вучняў Дзідро, прыслаў ёй, самай арыстакратычнай з еўрапейскіх імператрыц, ліст з просьбаю падараваць на знак спачування вальтэр'янскім ідэям свой партрэт.

Яна весела смяецца.

Месье Дзідро яна ўдзячная не за такіх вучняў, а за іншае. У адзін цудоўны дзень ён парэкамендаваў яе паслу ў Парыжы скульптара Фальканэ. Яшчэ год ці два, і першы расейскі імператар уздыбіць масянжовага каня над Нявой, назаўжды ўвекавечыўшы і яе, Кацярыну Другую.

Тут, недалёка ад палаца, што даў сёння прытулак яе шчаслівай ночы, ёй паказалі мураванку — два ляпныя геніі над уваходам, — дзе спыняўся Пётр. Трэба прызнаць, што ў Полацку ён мог бы паводзіцца і больш абачліва.

Гэтае забойства вікарыя з уніяцкімі манахамі... У Сафійскім саборы ды яшчэ ў час прычасця... Колькі непажаданых размоў пры еўрапейскіх дварах... І потым — парахавое сховішча ў саборных сутарэннях...

Можа, ведаючы, што праз семдзесят пяць гадоў яна атрымае ад полацкіх базыльянаў запрашэнне наведаць адбудаваны сабор, імператар трымаўся б больш дальнабачна. Учора яна палічыла за лепшае ўхіліцца ад візіту, не забыўшыся — яна тонка ўсміхаецца — разыграць пры гэтым сцэну незадаволенасці праваслаўнымі манахамі з Богаяўленскай царквы, якія, ведама ж, зусім выпадкова зацягнулі набажэнства...

Не дзіўна, што ён, полацкі паляўнічы, таксама ўспомніў Пятра. Зрэшты, ёй чамусьці не надта хочацца згадваць іх начную размову.

Настоеная на пахах і водарах ночы світальная свежасць запаўняе спальню, і імператрыца накідвае на плечы стары ўтульны шлафрок, што памятае шмат яе вандровак і таямніц.

Ранішні даклад яшчэ далёка, і яна сядае да бюро, каб напісаць сыну. Добра распісанае пяро лётае па паперы з такой самай вясёлай лёгкасцю, як некалі ў дзяцінстве яна, ловячы расшпіленым футэркам вецер, лётала на галандскіх каньках па замерзлай сажалцы.

«Паміж вокнамі маімі і Польшчаю адна толькі не вельмі шырокая Дзвіна... З таго часу, як я тут, заўсёды куртаг. Безліч мужчын і жанчын найвышэйшага палёту, што прыехалі з Польшчы. Паўсюль стужкі блакітныя ды чырвоныя і духоўныя асобы ўсялякага крою. Учора я была ў езуітаў і ўражаная іх бляскам. Усе астатнія каталіцкія ордэны ў параўнанні з імі — свінні. Адно толькі шкада, што гэтыя людзі не танцуюць. У іх тут найраскашнейшая царква. Ах, якія сярод іх трапляюцца круцельскія фізіяноміі!..»

Так, яе імперыя — гэта не Еўропа, а зусім іншы мацярык, але менавіта ёй, Кацярыне, — нявызнаныя шляхі твае, Госпадзе! — служыць забаронены папам Клементам XIV ва ўсім каталіцкім свеце ордэн езуітаў.

Яна адкладае ўбок пяро, і перад яе вачыма праносіцца цэлая ненапісаная пакуль кніга, вартая таленту выбітнага раманіста.

Тады, калі двухгаловы арол распасцёр крылы над новымі губернямі, яна загадала графу Чарнышову і ўдзень і ўначы сачыць за езуітамі, як за найбольш падступным каталіцкім ордэнам. Хіба магла яна ўявіць, што рэляцыі з генерал-губернатарскай канцылярыі будуць штораз выклікаць у яе не трывогу, а захапленне? Што полацкія езуіты першымі складуць ёй прысягу і адслужаць у саборы святога Стэфана літургію ў гонар яе імянінаў?..

Яна паставіла сабе на службу магутны ордэн і сімпатыі многіх новых падданых-католікаў. Яна, не трацячы ні рубля, захавала на далучаных землях езуіцкія школы і калегіумы, праграмы якіх прынамсі на стагоддзе апярэджваюць любую расейскую школу, — не дзіва, што знакамітыя фаміліі з абедзвюх яе сталіц пачынаюць аддаваць дзяцей у навучанне не куды-небудзь, а ў Полацк, дзе Таварыства Ісуса мае найстаражытнейшы на гэтых землях калегіум.

Яна абвяла вакол пальца самога папу, высачыўшы ягоных агентаў, што меліся публічна абвясціць у Полацку пастанову пра забарону ордэна, і цяпер на ўсе ўшчуванні і пагрозы з Ватыкана полацкія езуіты, сціпла апусціўшы вочы, адказваюць, што дзеля выканання загадаў з Рыма яны гатовыя ахвяраваць нават уласным жыццём, але гэтага не дазваляюць ім свецкія расейскія ўлады.

Яна дазволіла адчыніць у Полацку навіцыят, а гэта значыць, што яе памежны горад зрабіўся сусветнай

сталіцаю Таварыства Ісуса. Вестка пра тое разляцелася па Еўропе і дасягнула Новага Свету. Рэктар калегіума казаў учора ў прамове, што берагі Дзвіны замянілі ордэну берагі Тыбра.

Цяпер сюды, пад абарону праваслаўнай імператрыцы, атрымаўшы ў расейскага пасланніка ў Вене пашпарты, едуць адукаваныя сябры ордэна з Італіі і Францыі, Нямеччыны і Швейцарыі… На абедзе — стол быў накрыты на сто кувертаў — ёй адрэкамендавалі двух прафесараў Сарбоны і амерыканскага мільянера, які перасек акіян і дзясятак краін, каб ахвяраваць ордэну свае мільёны.

Там быў яшчэ фацэтны італіец, які пасля другой змены страў дэкламаваў уласную элегію да рыб ракі Палаты, што побач з яе палацам зліваецца з Дзвіною…

Не, на абедзе паляўнічага не было. Яна ўпершыню ўбачыла яго на балі, дзе ўчарашняга вечара танцавала паўтысячы гасцей.

Яна ніколі не залічала сябе ў прыхільніцы баляў і ўжо даўно не дазваляла сабе з галавою акунацца ў легкадумны вір музыкі, шампанскага, фальшывых усмешак і навылёт хлуслівых прызнанняў і кампліментаў.

Каб не марнаваць часу, яна, як зазвычай, даручыла вачам выбраць аб’ект назірання. Спачатку аб’ектаў аказалася адразу два: князь Пацёмкін і падобны да Гамлета Ланской, якога ў Пецярбургу яна, хаваючы ад прыдворных дам і ашчаджаючы для сябе, здаралася, днямі трымала пад замком. Князь не быў бы самім сабой, каб не ведаў, хто шаптаў ёй у мінулую ноч «зоренька» — так, выконваючы ейнае жаданне, мусілі называць яе ўсе фаварыты.

Князя як быццам магнэзам цягнула да Ланскога: ён колькі разоў здымаў з тацы два келіхі, загаворваў з маладым канкурэнтам, і аднойчы яна, імператрыца, здолела ўбачыць ці, праўдзівей, праз усю залю адчуць

тую ледзяную ўсмешачку, што празмяілася па князевых вуснах, на імгненне прыадкрыўшы бездань ягонае нянавісці. Перад тым як пераключыць увагу на беларускага афіцыяла Паслоўскага, яна спакойна падсумавала: не будзе нічога дзіўнага, калі неяк увечары пецярбургскі Гамлет бесклапотна вып’е келіх таго віна, якое каштуюць толькі раз.

Ксёндз Паслоўскі заняў пазіцыю каля высокіх вокнаў, за якімі на ілюмінацыйнай вежы быў вытканы агнямі яе, Кацярынін, партрэт. Да афіцыяла па чарзе падыходзілі ваявода берасцейскі Ян Зыберг, полацкі кашталян Фадзей Жаба, скарбовы пісар літоўскі Юллян Шчыт, ваявода люблінскі Ігнацы Твардоўскі… Пра што маглі гутарыць з афіцыялам гэтыя фанабэрлівыя палякі і ліцвіны? Можа, усе разам атрымалі ад папы новы загад паўплываць на непакорлівы ордэн? Няхай афіцыял раскажа ім пра кіслую міну апошняга пасланага з Варшавы нунцыем Аркеці сакрэтнага агента, што не паспеў ступіць па дзвінскім беразе і двух крокаў, як з туману выйшаў сам полацкі гараднічы са сваімі людзьмі, якія ветліва пасадзілі няпрошанага візітанта назад у човен і паабяцалі, што наступнага разу давядзецца вяртацца наўплаў.

Твардоўскага змяніў стараста інфлянцкі Язэп Плятэр, а таго — кашталян троцкі Андрэй Агінскі… Яна засталася задаволенаю, што беспамылкова памятае, хто ёсць хто ў гэтай жывой мазаіцы твараў, але разам з тым адзначыла, што ніхто з суразмоўцаў ксяндза Паслоўскага так і не павярнуўся тварам да вокнаў, у якіх ззяў яе партрэт у атачэнні гербаў галоўных гарадоў імперыі. Яна ўжо мелася палічыць падкрэсленую няўвагу палітычнай дэманстрацыяй, як яе позірк спыніўся на гнуткай, яна сказала б, празмерна гнуткай постаці Станіслава Панятоўскага, пляменніка і цёзкі караля і вялікага князя. Апошняга караля і вялікага

князя, — думаючы пра былога фаварыта, дадавала яна ўжо не адзін год.

Аднак інтэрас у яе выклікаў не сам пляменнік — асоба, ствараючы якую Госпад відавочна адпачываў, хоць, зрэшты, і падкінуў ёй за картачны столік неблагога партнёра. Яна весела злавіла сябе на тым, што прагна разглядвае ягонага спадарожніка.

З гэтае хвілі яе ўжо не цікавілі ні бестурботны Гамлет з развар'яваным князем Пацёмкіным, ні чарада ліцвінаў і палякаў, што, як восы вакол спелае грушы, круціліся каля афіцыяла (яны дачакаюцца часу, калі яе партрэты будуць аздабляць гербы і іхніх гарадоў), ні цэлы рой маладых іншаземцаў-езуітаў, што размаўлялі адначасова на чатырох ці пяці мовах, з цыркавой лёгкасцю пераскокваючы з французскай на лаціну і з нямецкай на ангельскую.

Ён выглядаў на паўгалавы вышэйшым за Ланскога і, відаць, пражыў на свеце ці не ўдвая болей за яго, што між тым ані не адбілася на па-маладому станістай постаці. Яна, імператрыца, была пэўная, што ў яго на галаве не парык, а ўласныя, густыя і нават на позірк шорсткія валасы, якія ёй у мужчын нязменна падабаліся. На ягоным выштукаваным без лішняга мудрагельства твары ляжала пячатка адлучанасці. Яна зразумела, што гэты мужчына, як і яна сама, не паддаўся святочнай мітусні і застаецца ў яе віхуры сам-насам з сабою.

Ёй захацелася ўбачыць яго зблізку, пачуць ягоны голас, даведацца, якія ў яго вочы. Губернскі маршалак Корф, што не адыходзіўся ад яе далей чым на тры крокі, схіліўшыся да вуха, патлумачыў: былы земскі суддзя Полацкага ваяводства Каспар Буйніцкі, нашчадак старажытнага тутэйшага роду, удавец і заўзяты паляўнічы.

Маршалак зрабіў знак, і праз хвіліну радавіты ліцвін стаяў перад ёю.

З валасамі яна не памылілася: густыя, цёмна-каштанавыя, ледзь-ледзь кранутыя плацінавай сівізной, яны — вядомае яшчэ старажытным грэкам сведчанне пароды — розніліся з жарай барадой і гэткага ж колеру вусамі геданіста. Літая постаць дыхала спакойнай, утаймаванаю сілай. Выразны, буйны, але ў класічных межах, нос паведамляў пра цвёрдасць характару. Аднак першае, што яна ўбачыла, калі ён ці не занадта лёгкім паклонам павітаўся з ёю, былі зусім маладыя зялёныя вочы, якія то цямнелі і ўвачавідкі рабіліся карымі, то зноў святлелі амаль да колеру травеньскае лістоты, але незалежна ад гэткіх хуткіх зменаў у іх, не гаснучы, гралі небяспечныя агеньчыкі.

Так, ужо тады, на балі, ягоная блізкасць павеяла на яе небяспекаю. І ўадначас яна, імператрыца, адчула сілу ягонага мужчынскага прыцягнення, сілу, якую яна ўмела цаніць, як ніхто.

Яна ўжо ведала, хто прашэпча ёй сёння «зоренька».

Але тут яна памылілася: ён, хоць і быў папярэджаны пра асвечанае традыцыяй імператрыцына жаданне, не назваў яе так ні разу.

Яна адно зараз асэнсоўвае гэта, і адкрыццё аніяк нельга назваць прыемным. Укveленасць увасабляецца ў тонкім звоне камара, які мерыцца паснедаць, апусціўшыся ёй на шыю.

Імператрыца выводзіць камара з гульні, але ёй здаецца, што прыкры звон у спальні не сціхае. Каб адпрэчыць замарачэнне, яна вяртаецца да ліста сыну.

«Жыхарства тут самае разнастайнае: вельмі часта побач жывуць праваслаўныя, каталікі, уніяты, габрэі, рускія, палякі, чухонцы, немцы, курляндцы, карацей, не ўбачыш двух сялянаў, каб тыя былі аднолькава апранутыя і правільна гаварылі на адной мове; змяшэнне пляменаў і моваў нагадвае Вавілонскае стоўпатварэнне...»

Ёй узгадваецца дарога з Пецярбурга: натоўпы сьвяточна прыбраных прыгонных рабоў з хлебам-сольлю, карагоды баб з іхнімі простанароднымі песьнямі... Часам, каб пацешыць ёй вока, усцяж гасьцінца ставілі бутафорскія вёскі-дэкарацыі: багатыя чыстыя хаты, каровы з вялізнымі вымямі, што нязьменна абуджалі ў яе жаданьне...

Адзін з мазілак-бутафораў сыграваў яе на апошнім начлезе перад Беларусьсю. Яна спакусілася ягоным грэнадзёрскім ростам і паставаю, але ў ложку вонкавыя мужчынскія вартасьці таксама ператварыліся ў бутафорыю. «Грэнадзёр» відочна баяўся яе, мітусіўся, у самы недарэчны момант ні з пушчы ні з поля кінуўся дзякаваць за ўказ, што дазваляў мастакам вольна заходзіць у народныя лазьні, каб вывучаць чалавечае цела на жывых мадэлях. «А сёньня, бацюхна, на гасударыні натуру спасьцігаць будзеш», — засьмяялася яна і бесцырымонна ўзяла яго за прычыннае месца. Ды ўсе стараньні натхніць бутафора скончыліся канфузам, і яна мусіла пасылаць па Ланскога.

Імператрыца пераводзіць позірк на алькоў, і яе вочы затуманьваюцца.

Другі раз ён, полацкі вядзьмак і паляўнічы, аваладаў ёю вось там, на ложку, абрынуўшы на яе піраміду падушак і падушачак. І зноў яго ласкі нагадвалі ласкі дзікага зьвера. Зноў штосьці лясное, нетравае таілася ў руках, што блукалі па яе целе, не ведаючы аніякіх забаронаў. Яна не назвала б свае адчуваньні прыемнымі, але прыхаваная трывога, што пульсавала ў іх лабірынтах, несла з сабою непаўторную слодыч.

Гаспадаром з першага імгненьня блізкасьці, як і раней, быў ён, і ў нейкую хвілю яе ўжо тады ўтнула здагадка, што ён апынуўся ў спальні не па волі яе, імператрыцы, а згодна з уласным, не зусім зразуме-

лым ёй планам… Але ён быў геніяльным каханкам, і тое, што адбывалася сярод раскіданых падушак, ужо не пакідала месца думкам, якія імкліва адносіла ўдалеч паводка асалоды.

Яны гаварылі па-французску, аднак у ложку ў яго вырваліся словы на іншай мове. Гэта была не польская, а мова яго дзяцінства, гэтых прыдзвінскіх лугоў і пушчаў. Прамоўленыя на ёй словы нарадзіла не пяшчота, не цеплыня. У іх, як і ва ўсім тым, што ён рабіў з яе целам, гучала ўладная грубасць, якая між тым заставалася непакаранаю, бо ўваходзіла ў правілы гульні, якія яна, імператрыца, прымала не вымушана, а з усцехаю, цалкам падпарадкоўваючыся ягонай уладзе, яго дыханню і яго мужчынскаму crescendo.

Ейную свядомасць толькі злёгку зачапіла крылом зайздрасць да тых, каго ён любіў да яе і каго будзе любіць пасля.

Ён і яна ўскрыкнулі адначасова.

Потым яны ляжалі ў празрыстай, прапахлай іх любоўю цемры і размаўлялі.

Размова атрымалася нядоўгаю, але ў імператрыцы такое ўражанне, што яны прагаварылі цэлую ноч.

Яска ўкveленасці, што ўспыхнула, калі яна згадала ўпартае нежаданне ліцвіна назваць яе «зоренькой», не гасла, а наадварот — разгаралася і асвятляла падзеі прамінулае ночы ўжо крыху іншым святлом.

Тады, у прыліве жаночае ўдзячнасці, яна запусціла пальцы ў гушчар ягоных кудзераў, кудлаціла іх і дрымотна думала, як добра было б узяць полацкага паляўнічага з сабою ў дарогу: можа, да Магілёва, дзе яе чакала сустрэча з аўстрыйскім імператарам Іосіфам, а можа, і далей, у Пецярбург… Прамоўленыя ёю словы сталіся вынікам не асэнсаванага рашэння, а толькі працягам адчуванняў напоўненага шчаслівай стомаю цела, але яна, імператрыца, не

выключае, што раніцой словы-мроі маглі — цікава было б паназіраць за Пацёмкіным і кампаніяй — увасобіцца ў яву.

«Хадзі да мяне на службу, ліцвін. Я вазьму цябе ў сталіцу».

Яна вяртала сабе становішча гаспадыні, але голас яшчэ быў афарбаваны цеплынёю, і зараз з гэтае прычыны яна чуе ніякаватасць.

Адказам стаўся смех — вясёлы, здаецца, шчыры і густы, як і валасы яго гаспадара.

Толькі адсмяяўшыся, ён сказаў «не».

«Я ўмею быць шчодрай…»

Ён меў адвагу перапыніць яе.

«Ваша вялікасць, магчыма, тое, што я скажу, будзе смешным ужо для вас. — Голас ліцвіна зрабіўся непрыемна сур'ёзным, у ім не ацалела ні іскрынкі смеху. — Сентыментальны юнак памёр ува мне так даўно, што я ўжо не памятаю, на якой ростані аплакваў яго. Але гэтаксама даўно я зразумеў, што не змагу жыць без гэтае зямлі. Без Дзвіны, без маіх лясоў, без магільных скляпоў нашага роду. Без таго, што той чуллівы юнак называў радзімай…»

«Цяпер і назаўсёды гэта частка маёй дзяржавы, — суха адказала яна. — Для тваіх дзяцей і ўнукаў радзімаю будзе ўжо Расея».

І зноў спальня пачула смех, але іншы: у ім гучала не толькі адмаўленне.

«Ваша вялікасць, няўжо вы насамрэч уяўляеце, што ўсё гэтак проста? Душа не можа ў адну цудоўную раніцу прачнуцца падданаю іншай дзяржавы».

«Ёсць розныя душы, ліцвін. Як ты ведаеш, шляхта, што прынесла мне прысягу, атрымала поўныя правы расейскага дваранства».

«Калі чалавека пазбаўляюць шляхецтва, ён не перастае быць шляхцічам».

«Ты павінен зразумець, што і тыя землі, — яна паказала на вакно, за якім плыла начная рака, — таксама будуць належаць Расеі. Праз год ці праз дзесяць — для гісторыі гэта імгненне. Людзі народзяцца, а землі — не. Я хачу, каб нашы ўнукі былі аднолькава рускімі і жылі, як родныя…»

Яна не заўважыла, калі перайшла на расейскую мову. Ён працягваў адказваць па-французску.

«Няўжо, вы думаеце, можна забыць…»

«Усё, — абсекла яна, — усё трэба забыць, ліцвін. Забыць дзеля міру, спакою і любові».

«Дзеля любові…»

Ён паўтарыў апошнія словы, як рэха, і пацягнуўся да яе.

Цяпер яна чула ў ім не толькі грымучую сумесь звера і паляўнічага. Яе пачуццё не паспела акрэсліцца ў думку, проста яна, імператрыца, ужо ведала, што — незалежна ад таго, ці прысягнуў ліцвін расейскаму трону — ён не быў яе падданым. Яна адчувала ў ім небяспеку, і гэта адно мацней распальвала яе. Напэўна, штосьці падобнае адчуваў і ён — вядзьмак, паляўнічы, вораг…

А можа, думаецца імператрыцы зараз, ёю кіравала ілюзія? Можа, блізкасць была неўсвядомлена абраная як галоўны аргумент у неспадзяванай спрэчцы, што пагражала стаць каламутным сном іхняе бяссоннае ночы?

Яна не пярэчыла, калі ён рашуча сцягваў яе з ложка на падлогу. Вусны і рукі паляўнічага зноў ператвараліся ў дзясяткі вуснаў і рук, якія абдымалі і лашчылі яе беспамылкова і таленавіта, але ў яе істоце нараджаўся пратэст. З такой адлучана-халоднай жарсцю, з такім самым майстэрствам ён мог бы любіць недзе пад стогам якую-небудзь шляхцянку з пасагам з дзесяці прыгонных душ. І ўсё ж жаданне перамагала,

і не шляхцянка, а яна, імператрыца, мусіла таймаваць сябе, адтэрміноўваць імклівае набліжэнне таго моманту, калі, ужо незалежна ад яе волі, з грудзей вырвецца вызвалены шчаслівы стогн…

Блізкасць сталася не фіналам, як яна спадзявалася, а ўсяго пярэрваю ў размове, нітку якой ён звязаў адразу, як толькі яны прылеглі на ложак, — быццам проста на нейкі час пакідаў спальню і вось вярнуўся.

«Ваша вялікасць, у мяне двое сыноў, і я сумняваюся, што ў іх кароткая памяць…»

«Памяць, ліцвін, аблудная, а гісторыя — заўсёды хлуслівая. Ты ведаеш, ёсць безліч азначэнняў навукі Кліо. Мне даспадобы вось гэтае: кніга, якую пішуць пераможцы».

Ён азваўся не адразу.

«Яшчэ гісторыю называюць плоццю часу. Яна ўмее супраціўляцца. Яна можа быць зброяй».

Ёй прагласяе хутчэй скончыць размову, што з кожнай хвілінаю рабілася ўсё больш няўтульнаю, і разам з тым яна ведала, што трэба дагаворваць да канца.

«Людзі ва ўсе часы хочуць, каб ім паўтаралі прыгожыя казкі…»

Ён зноў памарудзіў з адказам, аднак засталося ўражанне, што яму няцяжка знайсці патрэбныя словы, проста ён лічыць, што ўсё ўжо сказана раней.

«Так, хочуць. Але не ўсе. Будуць і тыя, хто не захоча верыць казкам».

«Іх заўсёды будзе меншасць, ліцвін».

Гэтым разам ён зрэагаваў імгненна.

«Але яны заўсёды будуць, ваша вялікасць. Як бы вам ці мне ні хацелася іншага. І яны ніколі не пагодзяцца з лёсам, які абралі не самі. Ніколі, ваша вялікасць».

У ягоным голасе ёй прымроіўся сум. Аднак, седзячы пры бюро над няскончаным лістом, яна разумее, што памылілася.

Трэці раз паляўнічы смяяўся, калі яна запыталася, якую ўзнагароду ён хацеў бы атрымаць на памяць пра сённяшнюю ноч: гэты збудаваны адмыслова дзеля яе прыезду палацык, грошы, пярсцёнак з дыяментам?..

Ён хутка абарваў смех.

Яму будзе досыць успамінаў пра шчасце дзяліць ложак з імператрыцаю.

Яна не ўзялася б сцвярджаць, што шчырасць гэтых слоў была разбаўленая нечым іншым, аднак якраз пасля іх яна і вырашыла застацца сам-насам з сабою...

Сонца даўно ўзышло. Гадзіннік паведамляў, што да ранішняга дакладу менш за гадзіну, а на восем раніцы прызначаны ад’езд.

Імператрыца перачытвае ліст да сына і застаецца незадаволенай. Ды часу што-небудзь дадаваць няма: у спальню вось-вось увойдуць слугі.

Канчаткова развітваючыся з ноччу і пачынаючы дзень, яна падыходзіць да вакна. На Дзвіне, бліжэй да «польскага» боку, з’яўляецца рыбацкая лодка.

Нейкі момант імператрыца чуецца самотнай і стамлёнаю. Але яна з дзяцінства асвоіла навуку не папускацца хвілінам слабасці, калі жыццё раптам выдае марнай мітрэнгаю.

Страпянуўшыся, як вялікая птушка, яна вяртаецца да бюро і ставіць на лісце дату: 22 траўня 1780 года.

Час выклікаць слуг. Аздоблены двума купідончыкамі званок-лілея стаіць на кансолі каля высокіх цяжкіх дзвярэй. Імператрыца бярэ яго, і яе рука замірае.

Пад лілеяй ляжыць срэбны сыгнет.

Яна ставіць званок і разглядвае знаходку. Ювелір быў не з горшых: конны рыцар на пячатцы захаваў усе дэталі — ад астрогаў да шасціканцовага крыжа на тарчы. Сумневаў наконт уладальніка сыгнета ў яе не ўзнікае.

Дык, значыць, адмовіўшыся ад яе падарунка, ад яе платы за ноч, ён, гэты мяшанец, гэты шляхціч-вядзьмак, меў смеласць і нахабства заплаціць ёй самой…

З глыбіняў яе «я» ўсплывае пякучае цёмнае жаданне пакараць, паказаць ліцвіну яго сапраўднае месца, давесці, што ён, няхай сабе ягонаму роду хоць тысяча гадоў, усяго толькі кузурка. Такіх, як ён, і яшчэ больш радавітых у яе ў імперыі нялічаныя тысячы, і кожнаму ў любы дзень лёс па яе волі можа ўсміхнуцца, а можа і…

Там, у Рэчы Паспалітай, яны прывыклі да беспакаранасці…

Яна, як пацеркі, перабірае найбольш вытанчаныя пакаранні і раптам імпэтна бярэ пазалочаную лілею і звоніць.

На ранішнім дакладзе, выслухоўваючы сабраныя пра горад і намесніцтва звесткі, яна дазваляе сабе быць не надта ўважлівай.

Жыта каштуе ад рубля да паўтара рубля за чвэрць… Пуд сена — меней за дзесяць капеек… Мяса — дзве капейкі за фунт…

Усё значна таннейшае, чым ва ўнутраных губернях, адзначае яна і ўспамінае, якія мядзведзі водзяцца ў полацкіх лясах.

Мяшчане ўсім задаволеныя, але скардзяцца на адсутнасць медных грошай і недахоп залатых ды срэбных манет на размен асігнацыяў…

Не забыць распарадзіцца забраць тую мядзведжую шкуру з сабой…

Каменныя магазіны пад збожжа гатовыя, шпіталі будуюцца, жабракі сабраныя ў багадзельні…

Трыста рублёў яна дае на жабракоў…

Ён быў такі салодкі…

Пяцьсот рублёў на праваслаўны Богаяўленскі манастыр…

А потым салёны…

Недабор падаткаў складае ўсяго дваццаць рублёў…

Такія ночы нячаста выпадаюць і ў імператрыц…

Сто рублёў на гарадскія школы…

«Людзі хочуць, каб ім паўтаралі прыгожыя казкі…»

Адганяючы сон, імператрыца трэ ўказальнымі пальцамі скроні і абмахваецца вахлікам.

У намесніцтве спакойна, няма ніводнага калодніка…

«Кніга, якую пішуць пераможцы…»

Пяць чырвонцаў на багадзельні…

«Мае сыны не забудуць…»

Дрымота адступае, і яна дыктуе сакратару першы сённяшні ўказ: зрабіць ва ўсіх далучаных гарадах вопісы ўмацаванняў з мэтаю іх паляпшэння.

Сёння ўначы ён не быў яе падданым. Такія, як ён, не стануць падданымі ніколі.

Роўна а восьмай імператрыца выходзіць з пакояў на палацавы ганак. Гарадскія цэхі са сцягамі, мяшчанства і габрэі ўжо стаяць усцяж вуліцы да самай трыумфальнай брамы. Звоняць званы. Гарматы даюць першы развітальны залп.

Імператрыцы мусяць быць велікадушнымі.

Яна абводзіць вачыма натоўп прыдворных, шляхты і іншаземцаў. Каспар Буйніцкі — каб успомніць яго імя, ёй не трэба намагацца.

Яго няма.

Яна сядае ў экіпаж і развітальна ўзмахвае рукой. Да першай паштовай станцыі будзе час падрамаць.

За тры дні яблыневая квецень у садах амаль асыпалася.

Што ён сказаў на адвітанне?

«Ваша вялікасць, зычу вам жыць і цараваць доўга».

Націск на слове «доўга». Што ён можа значыць?

Перад сваім пажаданнем ён гаварыў пра тых, што ніколі не пагодзяцца з лёсам, які выбралі не самі.

«Ніколі, ваша вялікасць».

Значыць… Значыць, царавацьдоўга, каб пераканацца… Дажыць да таго, калі яны возьмуцца за зброю…

Дзякуй, ліцвін. Яна сапраўды будзе жыць доўга. Яна пераўжыве былога каханка, якога звалі Станіславам Аўгустам. Куранты гісторыі хутка сыграюць ягонай дзяржаве рэквіем.

Яе, расейскую імператрыцу, будзе вітаць званамі і гарматамі Вільня. А іхні герб, той, што на сыгнеце, які ляжыць у яе ў кішэні, яна пакіне яму, ліцвіну-паляўнічаму, упрыдачу да яго крозаў. Але гэта будзе адно герб горада. Замест ранейшага, магдэбургскага, з караблём у блакітным полі на срэбнай вадзе…

Сон чамусьці не ідзе.

А тут яшчэ прыдарожны маёнтак уніяцкіх арцыбіскупаў і каля брамы — сам уладыка полацкі, назола з антычным імем Ясон і смешным прозвішчам Юнаша-Смагаржэўскі.

Цяпер адкруціцца ад візіту да ўніятаў не ўдасца.

Паклоны, ліслівыя ўсмешкі. А што за імі? Якія думкі спеюць за лбамі гэтых грэка-католікаў, што збудавалі пры браме дзве падобныя да мінарэтаў вежы і абнеслі рэзідэнцыю свайго ўладыкі мурам з дванаццаццю капліцамі, чые вокны болей выдаюць на амбразуры?

Навошта ім гэтая фартэцыя?

Арцыбіскуп, адрозна ад праваслаўных архірэяў, у тым ліку і сталічных, бездакорна гаворыць па-французску, што яе таксама раздражняе.

Яны ідуць да сажалкі з зялёнымі берагамі і блакітнай альтанкаю на выспе, куды перакінуты зграбны масток.

Імператрыцы зняэўку шчымліва-востра хочацца дадому, у Пецярбург.

Цестачкі да кавы зусім свежыя.

Альтанка, дзе сабраны стол, над самай вадою, адкуль яе, імператрыцу, незварушна разглядваюць залатыя рыбкі. Не рыбкі, а ўкормленыя рыбіны, кожная з якіх узброеная пачварна вялікімі вачыма-тэлескопамі.

Адразу ад берага глыбока, што ёй таксама не падабаецца, бо нагадвае пра раскіданы паводкаю мост і неабходнасць перапраўляцца цераз Дзвіну ў шлюпцы.

Але ў гэтай глыбіні ёсць і выгода: імператрыца апускае руку за парэнчу, і арцыбіскуп не заўважае, як бліскае на сонцы срэбны пярсцёнак з пячаткаю і як рыбіны ўважліва праводзяць яго лупатымі вачыма.

*1998*

# Пакуль не згасла свечка

*Сцяпану Александровічу*

Хлопчык мой! Дарагі Ежы!

Здарылася амаль неверагоднае. Я зноў магу сказаць табе: «Добры дзень!»

Хачу верыць, што ён для цябе сапраўды добры. Я так даўно ў турме, што мне часам здаецца, быццам на волі ўжо нікога няма. Толькі пра цябе я ніколі так не думаю.

У гэтыя хвіліны я спрабую ўявіць, дзе ты цяпер, чым займаешся. Калі зімовыя вакацыі не скончыліся, ты, напэўна, дома, у нашым ціхім кутку, дзе так часта вандруе мая душа. Бачу, як ты лётаеш на каньках па сажалцы, што за бераставымі прысадамі. Бачу, як ты, яшчэ расчырванелы ад марозу, сядзіш каля грубкі на плеценай канапцы з кнігаю на каленях. Мне хочацца зірнуць паўзверх твайго пляча: якая гэта кніга? Можа, том Плутарха з вашай бібліятэкі? Твая маці пісала мне ў Парыж, што ты захапіўся гісторыяй…

З якім пачуццём чытаеш ты мае першыя радкі? Бадай, я згодны на любое, апрача страху.

Вырашай сам, ці варта паказваць гэты ліст маці, бацьку ці дзядзьку Канстанціну. Ты ведаеш іхнія адносіны да мяне пасля арышту. Але не будзем надта сурова судзіць іх: цяжка знайсці чалавека, якому сваяцтва з дзяржаўным злачынцам прынесла б радасць. Лепш за ўсё — спалі гэты ліст. Тады сумленне маё будзе спакойнае.

Наогул маім адрасатам не шанцуе. Ліст да маёй сястры, а тваёй маці, сваё кароткае падарожжа закончыў

у следчай справе. Нядаўна з літасцівага дазволу я пісаў да яго вялікасці. Здавалася, я быў сама добранамернасць (хіба што дазволіў сабе сказаць на адрас вялікасці два-тры словы, якія не рызыкну паўтарыць тут), але наш самадзержац таксама не дачакаўся вестачкі ад аднаго са сваіх удзячных падданых.

І ўсё ж я жыву вераю, што ты прачытаеш гэты ліст. Ён пойдзе іншым шляхам. Мне выпала шчаслівая карта, Ежы. Сярод турэмшчыкаў з'явіўся наглядчык з незацверджанай дубейкаўскай шляхты, з тых самых Дубеек, што на паўдарозе паміж стольным Нясвіжам і маім маёнткам.

Калі бачыш гэтага чалавека ўпершыню, міжволі прыгадваюцца гісторыі пра ведзьмакоў і атручальнікаў, аднак у яго ў грудзях б'ецца шляхетнае сэрца.

— Пане, — ціха загаварыў ён да мяне аднойчы, паставіўшы на падваконец турэмную вячэру, — я памог бы вам уцячы, ды вы ўжо не дойдзеце і да дзвярэй. Што я магу зрабіць дзеля вас?

Спачатку я вагаўся, але калі ён сказаў, што ягоны бацька ваяваў пад штандарамі Касцюшкі, я даверыўся яму.

У яго вялікая сям'я, а я меў сто рублёў срэбрам: іх пераслаў нядаўна твой дзядзька Канстанцін (ці не ў якасці кампенсацыі за тое, што быў занадта гаваркі на допытах?). Урэшце мне ўдалося пераканаць свайго дабрадзея, што мне грошы ўжо не прыдадуцца, а павялічваць прыбыткі пана каменданта і ягонай хеўры я не імкнуся.

— Вашы грошы будуць апякаць мае рукі, — сказаў ён.

Я вельмі разлічваю на яго, бо нам з табою шмат аб чым трэба пагутарыць.

На Усходзе я чуў ад аднаго мудраца: калі хочаш доўга жыць, як мага часцей глядзі на зялёную траву, на цякучую ваду і на прыгожых жанчын.

Паўтара года я пазбаўлены ўсяго гэтага. Ці не таму я так хутка выпраўлюся ў апошняе падарожжа?

Не, гэта не пра мяне сказана: «Felix opportune mortis» — «Шчаслівы, хто памірае ў час», але, далібог, сёння я ў добрым гуморы. Я стаў такой важнай птушкай, што мяне баяцца генералы. Аб маім лёсе рупяцца шэф жандараў, галоўнакамандуючы дзейнага войска і нават сам Нерон*, з якім я так няўдала спрабаваў наладзіць ліставанне.

Тут, у Вільні, ужо атрымаўшы прагонныя, другі тыдзень сядзіць сталічны фельд'егер, каб суправадзіць мяне ў слаўны горад Табольск. Кат павінен зламаць над маёй галавой шпагу, затым мяне чакаюць пазбаўленне маёмасных правоў і сібірскія капальні. Так у нашай імперыі судзяць самых небяспечных дзяржаўных злачынцаў. Ну як, табе яшчэ не захацелася схавацца пад ложак, як у той калядны вечар, калі я апрануўся ў мядзведзя?

Толькі гэтым разам кат, відаць, застанецца без працы (вядома, ненадоўга), а бравага фельд'егера пецярбургскія прыяцелі павіншуюць з хуткім вяртаннем. Суддзі адмералі мне дваццаць гадоў катаргі, аднак і цяпер ім не ўдасца пацерці рукі, бо ў мяне засталося не дваццаць гадоў, а ў лепшым разе дваццаць дзён.

Але для такой размовы мне проста неабходна ўявіць свайго візаві. Мы развіталіся, калі табе было ўсяго дзесяць летаў і зім, і пакуль я падарожнічаў з Еўропы ў Афрыку, а потым з кута ў кут маёй каморы (восем з паловаю крокаў), ты неўпрыкмет ператварыўся з хлопчыка ў юнака.

У маіх вандраваннях прыгады аб табе былі самым дарагім, што я меў. Вольнаю хвілінай я асцярожна перабіраў іх, як калекцыянер бясконца разглядвае каштоўныя камяні са свайго збору. Вось гэты апал —

---

* Так Незабытоўскі называў у сваіх лістах цара Мікалая I.

той Вялікдзень, калі ты гасцяваў у мяне і мы з табой і фурманам Янкам наладзілі наезд на мой маёнтак. Заміж пісталетаў у нас былі петарды і ляскоткі, у цябе адклеіліся вялізныя чорныя вусы, а пан Янушэўскі, высакародна кінуўшы жонку, скочыў у брычку і з перапуду ледзьве не загнаў коней. А вось гэты гранат — дзень, калі мы знайшлі ў архіве пірацкую мапу з пазначаным на ёй скарбам. Апоўначы мы адкапалі каля стайні зусім новы гаршчок з пяццю залатымі. «Вуйку Олесь, — шаптаў ты, — а піраты будуць нам помсціць, так?..» Прабач, я раблюся сентыментальным. Напэўна, гэта туга па сыне, якога ў мяне ніколі не будзе.

Паўсюль ты быў маім невідочным спадарожнікам, у любы момант я мог выклікаць з памяці дзесяцігадовага гарэзніка з каштанавымі кудзеркамі і ў запэцканых зелянінаю нагавічках, якога лёкай толькі што зняў з бераста. Такім і яшчэ крыху незадаволеным, што цябе адарвалі ад вывучэння грачыных гнёздаў, ты быў у дзень нашай апошняй сустрэчы, калі ля ганка стаяў мой шасцярык. Але аднойчы я зрабіў не вельмі прыемнае адкрыццё. Я зразумеў, што такога цябе ўжо даўно няма. І вось тут адбылося нешта цікавае...

Неяк у часы студэнцтва я ехаў з Дэрпта праз Пецярбург і ў доме, дзе спыніўся, убачыў некалькі карцін Аляшкевіча*. Мяне вельмі ўзрушыў адзін партрэт — дама ў блакітнай сукенцы з галінкаю лаўра ў руцэ і побач з ёю дзеці: дзве дзяўчыны і два юнакі. Уражанне было моцнае і свежае, аднак найглыбей чамусьці запаў у памяць адзін з юнакоў, злёгку кучаравы, амаль круглатвары, з разумнымі вачыма і пячаткаю летуценнасці на ўсім абліччы. Памятаю, я адразу падумаў: з такога ніколі не вырасце нягоднік. І вось праз шмат гадоў, спрабуючы ўявіць цябе, я рап-

* Іосіф Аляшкевіч (1777–1830) — вядомы беларускі жывапісец.

там убачыў не мілае дзіця ў брудных штоніках, а таго летуценнага юнака ў гафтаванай кашулі з вялікім адкладным каўняром. Мо калі-небудзь ты зможаш спраўдзіць, ці нашмат памылілася маё ўяўленне, але для мяне ты застанешся такім да астатняй хвіліны.

А зараз сядай бліжэй, вось сюды, на край майго ложка, і я гатовы адказваць на твае пытанні. Прадбачу, што іх нямала і некаторыя ўжо маглі пачуць твая маці ці дзядзька Канстанцін. Баюся, што іх адказы знаходзяцца прыкладна на такой самай адлегласці ад ісціны, як мой Нясвіж ад Парыжа.

Даруй, Ежы! Я зусім забыўся на свой партрэт, а ты ж, пэўна, таксама хочаш бачыць свайго вуйка. У мяне барада ў пояс, расчасаныя пяцярнёй брудныя валасы да плячэй, вочы... Не, лепей папрасі ў маці дагератып, які я прыслаў вам з Францыі (маю падазрэнне, што цяпер ён ляжыць у патайным прыскрынку бюро), і паглядзі на паважнага маладога чалавека з прычоскаю a la Sultan Mahmoud. Ён даволі саманадзейна трымае ў руцэ гусінае пяро, а локцем абапёрся на стосік аркушаў. На драпіроўцы можна разабраць слова «Liberte»* — дагератыпіст быў заўзяты рэспубліканец.

Лепей уяўляй мяне такім...

Цяпер я цалкам да паслуг васпана. Чытаю ў тваіх сініх вачах галоўнае пытанне: як я апынуўся ў адзіночнай турэмнай каморы?

О, у абвінавачанні шмат пунктаў, аднак іх пералікам я займуся трошкі пазней.

Адзін разумны чалавек сказаў, што ў Расеі два праваднікі: язык — да Кіева, а пяро — да Шлісельбурга. Гэта адказ на тваё першае пытанне, бо турма ў віленскіх дамініканскіх мурах мала чым розніцца ад шлісельбургскіх казематаў. Прынамсі, выйсці адсюль не менш цяжка.

* Свабода (франц.).

—Падсудны Незабытоўскі! Вы абвінавачваецеся ў тым, што... Пункт першы: ганьбавалі спосаб кіравання ў імперыі. Пункт другі: дзікімі лаянкамі зневажалі гасудара імператара і іншых асобаў дома Раманавых, як «ныне здравствующих», так і «почивших в Бозе». Пункт трэці: заклікалі да стварэння таемных таварыстваў і паўстання жыхароў усіх плямён, станаў і веравызнанняў. Пункт чацвёрты: выяўлялі зацятую варожасць да манархіі і любоў да рэспублікі. Пункт пяты... Але досыць.

Ну як, нябожа, нагнаў на цябе страху? Відаць, не надта, бо ў тваіх вачах толькі паболела цікавасці. Якім чынам я трапіў у рукі нашых доблесных жандараў? Між іншым, гэта сапраўды вельмі займальная і не менш павучальная гісторыя.

Ты, магчыма, чуў, што я напісаў нейкія крамольныя кнігі. Гэта праўда, твой вуек з разраду людзей, якія адважваюцца давяраць паперы свае сумневы і нават імкнуцца пашыраць іх сярод суайчыннікаў. Я аўтар сямі кніг, яны выходзілі ў Вільні і ў Парыжы.

—Але ніхто не ведае літаратара Аляксандра Незабытоўскага... — зусім слушна зазначаеш ты.

У адказ я мог бы сказаць, што не шукаў славы, а толькі хацеў прынесці хоць каліва карысці нашай пакутнай зямлі. Праўда, тады я быў бы няшчыры. Homo sum... Я чалавек... Я марыў аб вядомасці. У тваім вяку за адну бяссонную ноч я напісаў параўнальны жыццяпіс Напалеона і Аляксандра Македонскага.

Усё жыццё я ўтаймоўваў прагу славы. Я пераконваў сябе, што не магу ні дня быць шчаслівы, пакуль няшчасная мая Айчына. І ўсё ж было багата дзён, калі я забываў пра гэта і адчуваў сябе шчаслівым. Я быў малады, Ежы! Але аднойчы, каб адолець свой непамерны гонар, я даў сабе абяцанне, што ніводную маю кнігу не будзе аздабляць маё імя. І я не парушыў слова.

Мае першыя драмы былі надрукаваныя ў Вільні з дазволу цэнзуры. Зрэшты, Шэкспір спакойны за свае лаўры: вялікага драматурга з мяне не выйшла. Суцяшаюся тым, што мае літаратурныя экзерсісы ўсё ж нечага вартыя. Не кожны літаратар атрымлівае ў якасці ганарару дваццаць гадоў катаргі.

Я стрымаў слова, хоць гэта і далося мне з пакутамі. Колькі сіл адабрала выданне рамана! Спачатку друкары не хацелі набіраць тэкст, потым крывадушная і баязлівая зграя парыжскіх гандляроў кнігамі адмовілася купіць раман, напалохаўшыся ягонай назвы. «Мары пра славу, каханне і свабоду»? Крый Божа!

Як я чакаў у Мадрыдзе паштовы дыліжанс, з якім адправілі маю кнігу! І вось два тамы ў мяне ў руках, і разам з усцехаю — разуменне, што, апроч двух-трох сяброў, ніхто на свеце не ведае і наўрад ці калі-небудзь даведаецца імя аўтара. Гаркаватая радасць.

Цяпер ты ведаеш, што я ехаў за мяжу не толькі лекаваць сухотку.

Дарэчы, вярнуўшыся памяццю ў тую пару, хачу цябе крыху развесяліць. Генерал-губернатар двойчы клаў пад сукно мае прашэнні аб выдачы замежнага пашпарта. Ніякіх падстаў для падазрэнняў у яго не было. Тады чаму? Калі здагадаешся — аддаю дамаскую шаблю з маёй гасцёўні.

Аднаго разу ў Вільні ў нас з губернатарам прычынілася векапомная сустрэча. Уяві такі малюнак. Баль у князя R. Я вяду свецкую размову з дамамі і раптам заўважаю, як усе вакол мяне праглынаюць языкі і са страхам утаропліваюцца на нешта за маёй спінай. Азіраюся — і што? Сам яснавяльможны пан Мірковіч. Вочы па яблыку, шчокі і левая нага трасуцца.

—Как вы смели, сударь, явиться в таком виде?! Я сам, сам, сам остригу вас!

У губернатара ёсць цудоўная звычка тупаць нагамі. Князёўне зрабілася млосна. І тут я шаркаю ножкай і гэтак ветліва адказваю:

— Да вашых паслуг, пане цырульнік…

Вось табе, Ежы, выдатны ўзор таго, якія людзі займаюць у нашай імперыі дзяржаўныя пасады.

Пасмейся, хлопчык мой, пасмейся, табе так пасуе смех…

Як у нас кажуць, зімовы дзень, што ў вераб'я дзюба. Час запальваць свечку. Ты не разумееш, Ежы, якая гэта раскоша — свечка. Уяві сабе дванаццаць, чатырнаццаць, шаснаццаць гадзін цемры са шкрабаннем у кутах, ад якога цемра робіцца яшчэ больш глухою. Уяві бясконцую ноч, калі пачынае здавацца, што ўжо ніколі не развіднее. А самае жахлівае, што можна заснуць і прачнуцца па-ранейшаму ў цемрыве, не ведаючы, доўжыцца вечар ці ўжо блізка раніца. Тады нараджаецца адчуванне, што цябе проста не існуе, што ты памёр або яшчэ не паспеў нарадзіцца. Такімі хвілінамі даходзіш да таго, што шалёна радуешся, пачуўшы крокі вартавога, бо яны, прынамсі, нагадваюць, што ты ў гэтым свеце не адзіны, што ёсць не толькі морак, але й цьмяны, аплецены павуціннем ліхтар у калідоры… Аднак цяпер я — Крэз! Камендант нарэшце дазволіў перадаць мне шэсць фунтаў свечак. Цэлых шэсць фунтаў, Ежы!

Ну вось, свечка ўжо гарыць, робячы маё жытло такім утульным, і мы можам працягваць размову.

Ты, вядома, хочаш пачуць аб маіх прыгодах і ў цывілізаваных краінах, і ў краях, не вельмі кранутых сумнеўнымі выгодамі нашага часу. Не, у палон да канібалаў я не трапіў, затое басконскія разбойнікі тры дні трымалі мяне ў пячоры, чакаючы выкупу. Калі застанецца час, неадменна раскажу пра гэта, а пакуль у нас ёсць больш важлівыя тэмы.

